© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 26 (1885) ГОД XXXVII БЕЛАСТОК 28 ЧЭРВЕНЯ 1992 г. ЦАНА 1500 зл.



*На здымку калектыў «Падлясянкі» з вёскі Хільмоны падчас фестывалю „Беларуская песня' 90". Без гэтага калектыву не адбываецца ніводнае беларускае свята на Дуброўшчыне. Гэтаксама было і ў гэтым годзе, а пра святкаванне ў Ячне чытайце на стар. 4.* Фота Сяргея Грынявіцкага.

## ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І СУЧАСНАСЦЬ

**(Занатоўкі са спаткання ў белавежскім скансэне)**

14 чэрвеня беластоцкі аддзел Таварыства аховы помнікаў даўніны (Towarzystwo Opieki nad Zabytkami) арганізаваў спатканне-семінар у белавежскім скансэне народнага будаўніцтва. З дакладамі выступілі Багдан Мартынюк, Дарэк Фіёнік ды Славамір Іванюк і праф. Васіль Белаказовіч.

Б. Мартынюк гаварыў аб царкоўнай архітэктуры, аб мастацтве колішніх дойлідаў, у якім спалучалася тое, што універсальнае ў чалавечым мысленні, разам з рэгіянальна-адметным. Архітэктура праваслаўных храмаў на Падляшшы (і шырэй — у Польшчы) якраз і з'яўляецца знакамітым доказам таго, што гэтае будаўніцтва (у адрозненне ад архітэктуры каталіцкіх святыняў) беражліва, праз вякі, захоўвала традыцыю гарманічнага спалучэння агульнай для ўсяго ўсходняга хрысціянства ідэі з характэрным для дадзенага рэгіёну і адметным яе ўвасабленнем. У архітэктуры, аргументаваў дакладчык, праяўляецца не толькі ўмельства майстроў, але й болей агульная канцэпцыя светаскладу, якая ўвабрала ў сябе як хрысціянскія, так і дахрысціянскія вартасці.

Дарэк Фіёнік і Славамір Іванюк прадставілі „Царкоўна-гістарычнае і статыстычнае апісанне Чарнянскай царквы і прыхода" — дакумент, выяўлены першым з дакладчыкаў у парафіяльным архіве ў Чорнай-Царкоўнай. Апісанне, створанае ў 1889—90 г.г. тадышнім настаяцелем Чарнянскага прыхода а. Аляксеем Валкоўскім, уяўляе сабою надзвычай каштоўную крыніцу для спазнання гісторыі нашага рэгіёну. Акрамя багатага гістарычнага матэрыялу (грунтоўна прадстаўленага ў „Ніве" — н-ры 14 і 15 г.г.), у апісанні знаходзіцца шмат звестак пра звычаі і штодзённае жыццё парафіян напрыканцы XIX стагоддзя. Інакш кажучы, акрамя гісторыі ім павінен зацікавіцца і этнограф. Асаблівасць гэтага апісання яшчэ і ў тым, што датычыць яно сёння ўжо абсалютна польскамоўнага праваслаўнага арэалу Беласточчыны (паўднёва-заходняя яе частка). Прысутныя на сустрэчы ўхвалілі намер дакладчыкаў апублікаваць гэты дакумент (расейскі арыгінал з польскім перакладам). Адначасна была выказана думка, што ў беластоцкіх архівах могуць знаходзіцца апісанні іншых прыходаў, паколькі праводзіліся яны па запатрабаванні і інструкцыі Віленскай праваслаўнай епархіі па ўсёй епархіяльнай тэрыторыі. Інструкцыя давала настаяцелям прыходаў падрабязныя ўказанні і салідную метадалагічную аснову, дзякуючы чаму гэтыя апісанні маюць сёння вартасць каштоўнай гістарычнай першакрыніцы.

Выступленне прафесара В.Белаказовіча мела болей агульны характар — датычыла яно новай сітуацыі ўсходнеславянскіх народаў пасля распаду Савецкага Саюза і фармулявала некаторыя высновы адносна ўплыву гэтых зменаў на стан грамадскай і палітычнай свядомасці праваслаўнага жыхарства Беласточчыны. Тэма, як і належала спадзявацца, выклікала гарачую дыскусію — яшчэ адну з доўгага ланцужка дыскусій і спрэчак наконт палітычных і нацыянальных выбараў сярод праваслаўных на Беласточчыне. Яшчэ раз з цэлай вастрынёй паўстала праблема аб'яднання як грамадскіх, так і палітычных намаганняў дзеля захавання еднасці праваслаўных Беласточчыны. У якой форме? — на гэтае пытанне шукаем адказу ўжо пару ладных гадоў. Спатканне ў Белавежы такога адказу таксама не дало.

**Я.М.**

## У ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЕ

У аўторкі і пятніцы адчыняецца на некалькі гадзін пераходны пагранічны пункт у Баброўніках - карыстаць з яго могуць пакуль толькі жыхары гміны Гарадок і раёна Бераставіцы. Праз гэты пункт ідзе таксама абмен таварамі. Ёсць праект, сказаў мне войт Гарадоцкай гміны, каб гэты пункт пераўтварыць у найбліжэйшай будучыні ў агульнадаступны. У Гарадку шмат хто лічыць, што дзякуючы гэтаму пагранічнаму пункту наступіць гаспадарчае ажыўленне гміны.

Інвестыцый сёння ў гміне няма. Гмінная рада накіроўвае свае намаганні дзеля паляпшэння дарог. Zarząd Dróg Publicznych, кажа войт Яўген Семянюк, не мае на гэта сродкаў - гміна сама павінна пакрываць усе кошты. Шмат сродкаў ідзе ў гміне на бягучыя рамонты - прадшколле, камунальны жылы дом, гмінны дом культуры. Да гэтага даходзяць яшчэ выдаткі, звязаныя з сёлетнім «Басовішчам»: давядзенне вады і электрычнасці ў Барык ды перабудова сцэны. Будаваць новую сцэну ў Барыку мае Бельска-падляшскае будаўнічае прадпрыемства «Unibud». Прадпрыемства само пакрые кошты транспарту і працы. Гміна супольна з арганізатарамі «Басовішча» маюць усяго вярнуць кошт матэрыялу - «Unibud» пагаджаецца, каб вярнуць гэта ў форме іншых матэрыялаў. Рада гміны і гмінная ўправа лічаць «Басовішча» карыснай імпрэзай, якая тут, у Гарадку, мае перспектыву ды трывала ўпішацца ў гарадоцкі культурны краявід. Гмінная рада прызнала нават 5 мільёнаў на ўзнагароду ў гэтым годзе.

Бюджэт гміны - 6,5 мільярда злотых. Дасягненне даходаў, кажа войт, пакуль адбываецца без перашкод. Трэба звярнуць тут увагу на памяншэнне датацый - з 1,4 мільярда ў 1991 годзе да паўмільярда ў 1992. Нягледзячы аднак на сціпласць гмінных фінансавых сродкаў, гмінная ўправа ахвяравала 20 мільёнаў злотых на пабудову Беларускага музея ў Гайнаўцы. Управа сфінансавала таксама машыну для патрэб паліцыі.

У ліпені мінулага года, па ініцыятыве жыхароў, узнік Грамадскі камітэт па справах тэлефанізацыі. 1 ліпеня гэтага года Камітэт падпіша першыя дамовы аб падключэнні тэлефонаў. Дзякуючы гэтай ініцыятыве 102 чалавекі атрымае свой тэлефон. Кошт «дасягнення» тэлефона на аднаго сябра Камітэта /фінансавы ўклад і праца/ - 5 мільёнаў 800 тысяч.

У гэтым жа годзе была праведзена вада ў вёску Меляшкі /каля 30 гаспадароў/. Ініцыятыва сваімі пачаткамі сягае 1990 года. Праведзенне водаправода адбывалася таксама ў рамках грамадскага камітэта. Ажыццявіць ініцыятыву дапамагалі ваяводская і гмінная ўправы.

*працяг на стар. 7*

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## НА МЯЖЫ

### РЭЛІГІЙНЫЯ ДЫЛЕМЫ
### Частка XXI

Адной са з'яў, выступаючых на ўсёй тэрыторыі Беларусі, і, несумненна, ганьбячых нашу нацыю, ёсць стан праваслаўных могілак. Я скарыстаў некалькі нагод і заходзіў на могілкі на Гродзеншчыне, Міншчыне і Гомельшчыне. Па сутнасці усюды сустракаўся з падобнай карцінай чалавечай абыякавасці, беспрынцыповасці і бескультурнасці. Амаль усюды могілкі былі неабгароджаныя, магілы парослыя высокай травой, мізэрныя помнікі, або проста ўбітыя ў зямлю жалезныя ці драўляныя — пахіленыя, паўгнілыя крыжы. Усюды пышнілася абыякавасць жывых да памерршых. Рэдка дзе я сустрэў добрыя помнікі, задбаныя магілы, кветкі.

Некалькі разоў сустрэў коз, якія пасвіліся на высокай могільнікавай траве, дзіравячы магілы сваімі вострымі капытамі і абсыпаючы іх сваімі адходамі.

Дзе ж прапала добрая традыцыя? У Беларусі ад вякоў існаваў культ продкаў. Вера ў іх духоўную прысутнасць у побыце жывых. Перакананне ў патрэбе ўшаноўвання іх памяці і дбайнасць пра іх магілы. Праўда, старая грамадская і эканамічная рэчаіснасць у сялянскім жыцці была такая, што селянін не быў у стане ставіць раскошныя дарагія помнікі на магілах памерршых членаў сваёй сям'і. Нават высілкам цэлай вёскі ці некалькіх вёсак нельга было абгарадзіць могілкі бетоннай ці жалезнай агароджай. Аднак, дбаць пра магілы блізкіх мог амаль кожны. Кожны быў у стане вырываць з магіл зелле, пасеяць ці пасадзіць на магілах кветкі. І гэта нагул людзі рабілі. Існавала свайго роду добрае спаборніцтва паміж жывымі ў галіне дбайнасці пра магілы памерршых. Сёння на Беларусі ўсё гэта выразна прапала або моцна занядпала. Затое ўтрымалася традыцыя піць на могілках гарэлку ў часе памінальных свят. Сам я быў не толькі сведкам, але і ўдзельнікам такой працэдуры. Мой знаёмы вёз цешчу на могілкі з нагоды памінальнага свята. Паехаў з імі і я. Затрымаўшыся над магілай мужа, жанчына дастала з сумкі бутэльку і чарку. Пачала наліваць гарэлку і падаваць яе зяцю і мне. Я выразна разгубіўся, бо ніколі не быў сведкам такой практыкі ў нас на Беласточчыне. Зразумеўшы з позірку жанчыны, што мая адмова ад гарэлкі будзе для яе абразай, выпіў. Разгледзеўшыся вакол, убачыў, што амаль пры кожнай магіле людзі робяць тое самае. Некаторыя пілі шклянкамі. Пры гэтым гутарылі і паводзілі сябе так, як бы ўдзельнічалі ў радаснай падзеі.

## АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

З выглядам праваслаўных могілак на Беларусі моцна кантрастуюць праваслаўныя могілкі на Беласточчыне. Амаль усе сёння абгароджаныя, як правіла, мураванай сцяной, а характар помнікаў і стан магіл выразна сведчыць аб уласцівых адносінах жывых да памяці пра памерршых. Некаторыя з такіх могілак настолькі прыгожыя, што, трапіўшы на іх, не стараешся як найхутчэй з іх уцячы, як гэта бывае на Беларусі, але паяўляецца жаданне астацца, пахадзіць, пасядзець і падумаць над адвечным праміnannем і аб тым, што кожнага з нас чакае надмагільны камень.

Трэба, аднак, сказаць, што яшчэ гадоў сорак таму назад праваслаўныя могілкі на Беласточчыне прадстаўлялі сумную карціну. З чым звязана тая пазітыўная змена, з якой маем дачыненне сёння? Думаю, што з матэрыяльным узбагачэннем людзей, з дзейнасцю святароў і, мабыць, з польскім прыкладам. Справа ў тым, што каталікі традыцыйна лепш дбалі пра магілы, чым праваслаўныя. Як добра, што сёння мы зраўняліся з імі ў дбанні пра магілы.

Калі б былі ў мяне такія магчымасці, дык я прывёз бы ўсіх жыхароў Беларусі і яе святароў і паказаў бы ім могілкі на Беласточчыне. Няхай паглядзяць, як жывыя павінны клапаціцца аб памерршых.

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

## З МІНУЛАГА ТЫДНЯ

**У Польшчы** прабывала афіцыйная ўрадавая дэлегацыя РБ з намеснікам прэм'ер-міністра **Станіславам Брылем** на чале. 15 чэрвеня ў Шчэціне праводзіліся размовы на тэму пашырэння транспартнага супрацоўніцтва, асабліва абслугоўвання беларускага экспарту і імпарту польскімі партамі. У год транзітам з Беларусі і ў Беларусь праходзіць амаль 16 мільёнаў тон тавараў. Гэта ствараe шанц на лепшае выкарыстанне польскіх партоў. Каардынацыяй транзітнага таваараабмену будзе займацца польска-беларуска-кітайская экспедыцыйная суполка. Віцэ-прэм'ер Станіслаў Брыль цікавіўся таксама магчымасцю даручыць Шчэцінскай суднаверфі заказ на некалькі марскіх суднаў.

**Урад Украіны** аб'явіў міжнародны конкурс на праект удалага бетоннага забеспячэння чацвёртага рэактара на Чарнобыльскай АЭС. «Саркафаг», пабудаваны адразу пасля катастрофы, лопаецца, а трэшчыны выступаюць ужо на паверхні 5 тысяч кв. метраў. Вайсковая вымяральная станцыя ў Люлеа ў паўночнай Швецыі заявіла, што крыніцай павышэння радыеактыўнасці «без ніякіх сумненняў» з'яўляецца Чарнобыль.

**Патрыярхат Маскоўскі і ўсяе Русі** пазбавіў мітрапаліта Кіеўскага **Філарэта** звання галавы Праваслаўнай царквы на Украіне таму, што «зламаў ён многія каноны царкоўнага права, імкнуўся да разбіцця Царквы і аддзялення Украінскай царквы». «Гэта помста за мае старанні наконт атрымання незалежнасці», - сказаў Філарэт.

**Пачатковая школа н-р 3 у Бельску-Падляшскім** /у якой выкладаецца беларуская мова/ вядзе старанні, каб атрымаць на свае патрэбы будынак былога камітэта ПАРП /пісалі мы аб гэтым двойчы - у 23 і 24 нумарах/. Куратар стварыў адмысловую камісію для вывучэння сітуацыі школ у гэтым горадзе. У выніку працы камісіі куратар надалей падтрымоўвае сваю ідэю стварыць у камітэцкім будынку трохкласную школу н-р 5, а дырэктару «тройкі» параіў абмежаваць запісы дзяцей, ахвотных вучыцца ў беларускай школе. Перайсці ў будынак былога камітэта жадае таксама Музычная школа, якая размяшчаецца ў будынку кляштара кармелітаў. У пачатку чэрвеня Маёмасная камісія ў Варшаве перадала каталіцкай парафіі Маці Божай з Гары Кармель кляштарны комплекс, і школа будзе вымушана на працягу дзесяці гадоў пакінуць гэты будынак.

**У Музеі Войска Польскага** ў Беластоку адкрылася выстаўка ікон са сховішчаў Абласнога краязнаўчага музея ў Брэсце. Усе экспанаты былі канфіскаваны таможнікамі падчас спроб вывезці іх на Захад. Толькі ў мінулым годзе брэсцкія таможнікі перадалі ў музей 700 ікон, а ў музеі захоўваецца цяпер каля 2000 абразоў, адабраных у кантрабандыстаў. На беластоцкай выстаўцы можна пaглядзець 110 экспанатаў, намаляваных пераважна ў XIX стагоддзі.

**Ад панядзелка, 22 чэрвеня,** Беластоцкае радыё пачало перадаваць канікулярную праграму і ў сувязі з гэтым памяняліся гадзіны эмісіі некаторых папулярных перадач. Беларускую перадачу **«Пад знакам Пагоні»** трэба цяпер слухаць а гадзіне **8.30** /а гадз. **8.45** пачынаецца новая праграма «Радыё-лета»/.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

* Справаздача з візіту Станіслава Шушкевіча
* Свята беларускай культуры у Беластоку.
* Літаратурная старонка з новымі творамі „белавежцаў".
* Беларус з Полчына.
* Ма(кат)размы Сідара Макацёра.

**Грамадскі камітэт пабудовы Беларускага музея і працаўнікі Аддзела БГКТ у Гайнаўцы выказваюць глыбокае спачуванне нашай сяброўцы ГАЛІНЕ МАЛІШ з прычыны смерці МАЦІ.**

## ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

### СПАКОЙ ІМ ТОЛЬКІ СНІЦЦА

Нягледзячы на абвастрэнне эканамічнага крызісу ў рэспубліцы беларускі парламент адправіўся на летнія вакацыі. Лідэр БНФ Зянон Пазьняк расцаніў гэты манеўр Вярхоўнага Савета Беларусі як спробу ўцячы ад рэферэндуму. Свой пункт гледжання наконт дэпутацкіх вакацый выказала і Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада. Цэнтральная рада БСДГ выступіла з заявай, у якой прапанавала Вярхоўнаму Савету тэрмінова сабрацца на нечарговую сесію, каб вырашыць на ёй вайсковыя праблемы. Акрамя таго, грамадоўцы выступілі за хутчэйшую і бязвыплатную перадачу паловы дзяржаўнай маёмасці грамадзянам рэспублікі.

### ЯШЧЭ АДНО ВАКНО Ў ПОЛЬШЧУ

Непадалёку ад Бераставіцы распачата будаўніцтва новага кантрольна-прапускнога пункта. Гэты КПП будзе адпавядаць усім міжнародным стандартам, у тым ліку і прапускным.

### АФІЦЭРЫ СУПРАЦЬ «ПАГОНІ»

Згодна дадзеных Інстытута сацыялогіі Акадэміі навук Рэспублікі, толькі 18 працэнтаў афіцэраў Беларускага войска ўхвалілі нашы нацыянальныя сімвалы - герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг. Зрэшты, вынікі даследаванняў хутчэй заканамернасць, чым выпадковасць - больш за 70 працэнтаў у Беларускім войску - выхадцы з Расеі.

### ГОД БЕЛАРУСКАЕ МОВЫ

Клуб «Спадчына» Таварыства беларускай мовы імя Скарыны звярнуўся ў парламент і ўрад Беларусі з прапановай абвясціць 1993 год - годам беларускай мовы. Ініцыятары прапановы таксама звярнулі ўвагу кіраўніцтва рэспублікі на неабходнасць адмены пастановы Савета Народных Камісараў СССР ад 1938 года, якая знявечыла беларускі правапіс.

### НЕ ХАЧУ ВУЧЫЦЦА!

Прэстыж сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай адукацыі, здаецца, ляціць у бездань навыперадкі з кволай эканомікай. Ужо ў мінулым 1991 годзе прыём у сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы скараціўся на 4 працэнты, дзяржбюджэтныя інстытуты і універсітэты таксама вымушаны скарачаць штаты, а значыць і колькасць навучэнцаў. Але, мяркуючы па дадзеных урадавай службы сацыялагічных апытанняў Беларусі, цяперашніх школьнікаў гэта ніколькі не засмучае: 76,7 працэнта старшакласнікаў рэспублікі выказваюць жаданне, далёкае ад мар пра краіну ведаў - працаваць на сумесных з іншаземнымі фірмамі прадпрыемствах. 66 працэнтаў гатовыя хоць зараз выехаць на заробкі за мяжу.

### ПАДНЯЦЬ ВЕТРАЗІ!

Прэзідыум Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь прыняў канчатковае рашэнне аб стварэнні нацыянальнага марскога флоту. Але ж гэтым узняты пакуль толькі ветразь надзеі, бо, па меркаванні намесніка міністра транспарту Беларусі А. Г. Гулецкага, спачатку трэба займацца арганізацыяй кіруючай структуры і купляй флоту.

### КАСЦЁЛ РАЗДОРУ

Лёс сутыкнуў мастацтва і рэлігію на полі бою за былы Крыжаўздзвіжанскі касцёл, дзе цяпер дзейнічае музей дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Вернікі каталіцкай суполкі вёсак Аколіца, Курганы, Скураты, Бараўляны, Мар'яліва, Раўбічы Мінскага раёна змагаюцца за будынак, не жадаючы згаджацца з тым, што экспазіцыя музея з'яўляецца бадай што унікальнай нацыянальнай спадчынай гэтага накірунку, каштоўнасць якой невымяральная.

### КУДЫ СЕЛЯНІНУ ПАДАЦЦА?

У Менскім раёне адбыўся ўстаноўчы з'езд Аб'яднанай аграрна-дэмакратычнай партыі Беларусі. Дэмакраты-аграрыі прызнаюць права прыватнай уласнасці на зямлю і ў той час збіраюцца садзейнічаць развіццю сельскай гаспадаркі рэспублікі на аснове дэмакратычнага сацыялізма.

Старшыня Беларускай сялянскай партыі Яўген Лугін не вельмі ветліва аднёсся да гэтай падзеі. На яго думку, новая партыя расколвае сялянскі рух на Беларусі. Адметна, што лідэр Аб'яднанай аграрна-дэмакратычнай партыі Сымон Шарэцкі калісьці быў адным з завадатараў стварэння Беларускай сялянскай партыі.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# МІФЫ І РЭЧАІСНАСЦЬ
## (ЗАМЕЖНЫЯ ЗАМАЛЁЎКІ)

Дзмітры Шатыловіч належыць да другога пакалення «белавежцаў» і з'яўляецца адным з пачынальнікаў беларускай мастацкай літаратуры ў пасляваеннай Польшчы. Друкуецца ў «Ніве», літаратурных альманахах і беларускіх календарах. Дэбютаваў у 1957 годзе ў «Ніве» вершам «Падляшша», які праз сваю празмерную скромнасць падпісаў іменем жонкі Ніны. Ужо гэты верш, як і наступны - «Ты ўжо забыла», выклікалі вялікае зацікаўленне чытачоў.

Вершы Шатыловіча ўтрыманы ў эпічна-апавядальнай танацыі і належаць да традыцыйнай плыні ў беларускай паэзіі. Усе паэтычныя творы моцна звязаны з канкрэтнымі гістарычнымі падзеямі і сучаснай рэчаіснасцю, з фактычнымі перажываннямі, з багатай біяграфіяй паэта.

Нарадзіўся Дзмітры Шатыловіч у 1926 годзе ў вёсцы Чаромха на Беласточчыне. У час акупацыі быў вывезены на прымусовую працу ў Германію. Ваяваў на фронце ў радах Савецкай арміі. Дэмабілізаваны, вучыўся ў беларускай гімназіі і польскім ліцэі ў Бельску-Падляшскім. Скончыў Ленінградскі электратэхнічны інстытут і працаваў у праектнай арганізацыі Міністэрства энергетыкі ў Варшаве. Знаходзіўся таксама некалькі гадоў на кантрактах у Югаславіі і Індыі. Скончыў курс экскурсаводаў і выязджаў за мяжу з групамі турыстаў. Жыве ў Варшаве.

Паэтычную творчасць Шатыловіча можна падзяліць на тры тэматычныя часткі:

1. Успаміны з роднай вёскі з гадоў маладосці.
2. Франтавыя перажыванні.
3. Уражанні з замежных падарожжаў.

Вершы-ўспаміны з роднай вёскі паэт сабраў у зборнік «Маё Падляшша», які намервалася выдаць ГП БГКТ, а потым Беларускае літаратурнае аб'яднанне «Белавежа». Недахоп фінансавых сродкаў спыніў выданне зборніка. За той час Шатыловіч склаў другі зборнік - «Эцюды падарожжа» - у друкарні Спулдзельні інвалідаў «Przyszłość» у Бельску-Падляшскім. Зборнік выйшаў з друку на пачатку бягучага года. Шкада, што надрукавалі яго ананімна, без выдавецкай метрыкі, без месца і года выдання.

Зборнік пачынаецца экскурсіяй у Францыю, наведаннем Луўра, выдатнага помніка класіцызму ў Парыжы, аднаго з найбуйнейшых мастацкіх музеяў свету. Паэт апявае шэдэўры Ніке Самафракійскай, Афрадыты Мілоскай, Мона Лізы /Джаконды/:

З той шафы, як з клеткі,праз шыбу акна
Джаконда чаруе усмешкай жывой,
З вачэй жа яе свеціць водбліскам дня
І радасць, і шчасце, і цёплы спакой.
/"Жанчыны з Луўра"/

Чарговая экскурсія ў Турцыю і Грэцыю. Паэт агортвае зрокам Сабор св. Сафіі ў Стамбуле, помнік візантыйскай архітэктуры, збудаваны яшчэ ў VI стагоддзі. Усярэдзіне сабор абліцаваны мармурам, упрыгожаны фрэскамі. Туркі пераварылі храм у мячэць і затынкавалі фрэскі:

Ацалелі тут толькі на сценах
Дзве мазаікі старых ікон.
/"Сабор св. Сафіі"/

Паэт апынуўся ў Літахароне, мястэчку ля падножжа Алімпа, найвышэйшага горнага масіву у Паўночнай Грэцыі, у старажытнагрэчаскай міфалогіі - месца, дзе жылі багі:

Ад царквы дзве дарогі вядуць на Алімп,
Да магічных палацаў магутнага Зеўса:
Пад прыстанішча муз, дзе мы сёння былі,
А другая ля дзіўных далін Эніпефса.
/"У Літахароне"/

А вось і Фермапілі. Тут у 480 годзе да нашай эры войскі на чале са спартанскім царом Леанідам правялі гераічную абарону фермапільскага горнага праходу супраць арміі персідскага цара Ксеркса:

У вузкай цясніне засеўшая Спарта
Чакала на Ксеркса і ночы і дні.
Ды ён абыйшоў непраходны свой тартар,
І ў клешчы папаўся кароль Леанід.
/"Фермапілі"/

Чарговы аб'ект падарожжа паэта - славуты Акропаль у Афінах. У V стагоддзі да нашай эры тут створаны выдатны архітэктурны ансамбль - Парфенон, Прапілеі, Эрэхтэён, храм Ніке Аптэрас:

ДЗМІТРЫ ШАТЫЛОВІЧ

**ЭЦЮДЫ ПАДАРОЖЖА**



Высока падняты храм Ніке Аптэрас
Кідае на нас ахалоджаны цень,
І сочыць удаль каланадаю шэрай
Праз тысячагоддзі і ноччу і ўдзень.
/"Перад афінскім Акропалем"/

Новая экскурсія ў маляўнічую Грузію. Паэт захапляецца старажытным храмам з VI стагоддзя - Джвары:

Нам смутна, што вось старажытны шэдэўр,
Стаяўшы даўжэй чым трынаццаць вякоў,
Марнее цяпер без апекі людзей
І гіне адзін, як разбіты флакон.
/"Джвары"/

Паездка ў Ленінград /сёння Санкт-Пецярбург/, у якім паэт пражыў некалькі гадоў:

Вось альма- матэр маёй маладосці,
Прыстанак новы ў полымях жыцця.
Прыйшоў сюды я не адзіным госцем,
Я быў для ёй як роднае дзіця.
/"Дзень у Ленінградзе"/

Напэўна зацікавіць чытачоў нізка вершаў, змешчаных у зборніку, прывезеных паэтам з далёкай Індыі. Паэт апявае «дзесяткі непаўторных храмаў», распаложаных у гарах Гімалаях з шматлікімі багамі.

Усе яны ў сямейнай згодзе
Сядзяць на фоне белых гор,
Пры яркай сонечнай пагодзе,
Калі блішчыць снег хмарай зор.
/"Раджырапа"/

У вольныя ад працы хвіліны паэт назірае за жанчынамі, якія цяжка працуюць пры пабудове дома:

Абвітыя ў сары ідуць, як мурашкі,
Адна за адной па траве.
І не капялюш - з цэментам таз цяжкі
На кожнай стаіць галаве.
/"Карусель"/

У сваёй адзіноце паэт шукае паратунку ў сустрэчах з жанчынамі. Аднак і тут шчасце кароткатрывалае:

У пяшчотах з табою час хутка бяжыць,
Ды даходзіць да рэйды ўжо наш карабель.
А за кулерам белая сары ляжыць,
І спакойна чакае ўвесь час на цябе.
/"С. Х."/

На жаль, як сцвярджае пагаворка - усюды добра, ды дома найлепш. Адзінокага паэта агортвае туга за радзімай:

У голых эўкаліптаў, быццам слёзы,
Вісіць лісточкаў процьма нада мной.
А я хацеў бы, каб вось тут бярозы
Мяне ласкалі снежнай белізной.

Замест агаў з вялікімі лістамі
Каб ліпы мне далі духмяны цень,
На месцы руж з кваціcтымі кустамі
Каб васількі сінелі цэлы дзень.

Я тут хацеў бы ластаўку пабачыць,
Калі яна нырае над зямлёй,
І бусла даўганогага на хаце,
Акружанага белаю сям'ёй.

Аднак то толькі вычурныя мроі,
Не збыцца ім ніколі ў чужыні.
Ды часам мроі сэрца супакояць,
Туга, як рэха, згіне ў цішыні.
/"Сум"/

**Віктар Швед**

---

# САКРАТ НЕЧАКАНА ДАЧАКАЎСЯ

У Менску, у выдавецтве „Мастацкая літаратура", выйшла на днях кніжка Сакрата Яновіча „Самасей". У кніжку, акрамя аповесці, што дала ёй загаловак, увайшлі каля сямі дзесяткаў апавяданняў і мініяцюраў. Наклад гэтага зборніка — 5150 экземпляраў. Ходзяць чуткі, што Сакрат збіраецца за свой ганарар (калі яго атрымае) закупіць тых кніжыц штук дзвесце і сцягнуць іх на Беласточчыну. Цана кніжкі смяхотная — 2 р. 50 к. Нават калі гэта не „савецкія", а „беларускія" рублі, дык усё роўна пісьменніцкая кішэня вытрымае. Іншая справа, як ён думае перакінуць гэтую кантрабанду праз мяжу — няўжо выкарыстае свае палітычныя кантакты ў Менску? Трэба пачакаць.

У Беластоку чуткі пра тое, што Сакрата будуць выдаваць у Менску, хадзілі ўжо ад дзесяці гадоў. Калі не памыляюся, спачатку былі гутаркі пра двухтомнік, што ў беларускім літаратурным асяроддзі лічыцца прыкметай пісьменніцкай саліднасці і амаль пропускам у класікі. Выйшаў аднатомнік, але аб'ёмісты — каля 400 старонак, так што няма чаго наракаць. Сакрат і без двухтомніка ўжо класік — сама менш у дзяляндзы змагання за публікацыю сваіх твораў на беларускай мове.

Справа спачатку не здавалася гэткай зноў жа пагібельнай — „Мастацкай літаратуры" шэфствуе „наш чалавек", Серафім Андраюк з Градалёў, што на Беласточчыне. Адылі, земляцтва — земляцтвам, а правілы выдавецкай палітыкі на Беларусі — непарушныя (прынамсі да гэтага сённяшняга часу). Надзеі нашых „белавежцаў" на тое, што вось Менск павінен кінуцца выдаваць іхнюю прадукцыю (як-ні-як, гэта ж людзі з замежжа пішуць, і то па-беларуску), разбіваліся аб адну даволі адвачуючую запруду (хоць, адчуваю, ніхто яе ўголас у такім выглядзе не вызначаў, як пасля дужкі і працаўніка вызначу я) — на Беларусі халерна шмат пісьменнікаў. Сур'ёзна. Яшчэ адно насланнё беларускага лёсу. У сістэме, дзе выдаванне кніжак адбываецца паводле размеркавальніка, шанцы беластачанаў былі мізэрныя. Выдавалі тыя, што былі бліжэй гэтага размеркавальніка. Перыферыя заставалася ў ролі вечнага просьбіта. Гэта універсальны механізм ручнога кіравання літаратурай, які, з волі законаў чалавечай прыроды, з цягам часу непазбежна выраджаецца ў адкрытую мафійнасць. Кажуць, нібыта Яновіча ў Менску не выдавалі таму,што нехта з партыйных наглядчыкаў за літаратурай прышыў яму латку нацыяналіста. Гэта, так бы мовіць, вынік, а не прычына. Неяк трэба было тлумачыць сітуацыю, якая ў сваёй сутнасці тлумачыцца даволі брутальна: зашмат парасят пры адным карыцы. Патрабуецца элімінацыя.

Дзесяцігадовае выдаванне Яновіча мела і той суцяшальны вынік, што ў зборніку апынуліся апавяданні і мініяцюры зусім апошняга часу. Для пісьменніка гэта шмат значыць. Кніжка становіцца як бы „бліжэйшай", калі дыстанцыю мераць эмацыянальнымі адзінкамі.

Другая справа — падыход рэдактараў да беларускай мовы (тут — да мовы Яновіча). Без сумнення, выдавецкая палітыка ў адносінах да мовы прыгожага пісьменства за дватры апошнія гады на Беларусі значна лібералізавалася. Для прозы Яновіча ягоны варыянт беларушчыны — гэта рацыя быту тае прозы. Калі б кніжку выпусцілі дзесяць гадоў таму — ажно жах падумаць, што ад Яновіча ў ёй засталося б... Значыць, нічога благога без добрага не бывае.

Пра сам змест менскай кніжкі Яновіча (другой на ягоным уліку, пасля „Сярэбранага ездака") давядзецца нам паразважаць іншым разам (калі, прыкладам, тыя дзве сотні экземпляраў апынуцца на Беласточчыне). Хочацца закончыць такой рэфлексіяй: „Самасей" — гэта, бадай, ці не апошняя кніжка „белавежца", якую Менск выдае яшчэ ў „старой" сістэме, паводле размеркавальніка. Наступныя, калі паявяцца, дык ужо ў капіталістычнай сістэме рынкавых адносін. Цана ім (намінальная, у рублях ці талерах) несумненна падскочыць. Усё-ткі Сакрату пашэнціла. Нечакана, пасля дзесяці гадоў.

**ЯН МАКСІМЮК**

---

## «БЕЛАВЕЖЦЫ» Ў «КРЭСАХ»

У беластоцкія кіёскі трапіў ужо навейшы - 9 і 10 нумар цікавага, выдадзенага на высокім мерытарычным і эдытарскім узроўні, штоквартальніка «Крэсы», зіма-вясна 1992,т які ад некалькіх гадоў выдаецца ў Любліне. У гэтым нумары ёсць, між іншым, паэзія Р. М. Рыльке, вершы амерыканскіх і ўкраінскіх паэтаў, размова з украінскімі пісьменнікамі і сустрэча з Томасам Венцлавам.

«Крэсы» многа месца адводзяць таксама беларускай літаратуры, якая ствараецца ў Польшчы. У адным з папярэдніх нумароў гэтага часопіса з'явіліся вершы Надзеі Артымовіч у перакладзе Тадэя Карабовіча. У апошніх «Крэсах» таксама знайшлося месца для «белавежцаў». Адзначаны ў ім выхад навейшага паэтычнага зборніка ЯНА ЧЫКВІНА «Кругавая чара», а вартаснай і арыгінальнай творчасці НАДЗЕІ АРТЫМОВІЧ прысвячаецца крытычнае эсэ «Знакі няпэўнасці». У заяўках аб змесце наступных нумароў «Крэсаў» паведамляецца, што будзе надрукаваны вялікі нарыс «Дарэмнае падарожжа. Муза краявіду ў лірыцы Яна Чыквіна».

Варта напомніць, што бліжэйшы нумар /1992/н-р 2/ люблінскага часопіса «Акцэнт», прысвечаны культурнаму паграніччу, таксама прынясе паэзію «белавежцаў» і інтэрв'ю з Янам Чыквінам, старшынёю Літаб'яднання «Белавежа».

**ТЭРЭСА ЗАНЕЎСКАЯ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

## БАСАЎСКІ КУРС

У другім семестры гэтага навучальнага года - ад лютага да пачатку чэрвеня - студэнты беластоцкіх вучэльняў мелі магчымасць пашырыць свае веды /некаторыя - набыць элементарныя/ ў галіне беларускай мовы і літаратуры. Нагодай для гэтага быў курс, арганізаваны Беларускім аб'яднаннем студэнтаў у Філіяле Варшаўскага універсітэта. Па суботах вяліся практычныя заняткі па мове, а па пятніцах - увечары - даклады па літаратуры, гісторыі, культуры, г.зв. «Беларускія чытанні». Лекцыі чыталі літаратуразнаўцы, філосафы, пісьменнікі і паэты, высокага рангу спецыялісты з Польшчы і Беларусі. З дакладамі ці проста на аўтарскіх вечарынах выступілі: Надзея Артымовіч, Сакрат Яновіч і Ян Чыквін з Беласточчыны, ды Вольга Іпатава, Алесь Бяляцкі, Алесь Разанаў і Уладзімір Конан з Менска. З-за хваробы, на жаль, не змог даехаць даследчык літаратурнага жыцця ў Заходняй Беларусі Уладзімір Калеснік з Бярэсця.

Заняткі па мове вялі: спачатку Яніна Вішнеўская, а потым Хрысціна Місяюк. Вельмі многа сэрца ўкладвалі ў сваю працу, моцна ангажаваліся ў падрыхтоўку заняткаў, стараліся на працягу кароткага часу перадаць як найбольш істотнага для зразумення спецыфікі мовы і адчування ейнага духу. Ад імя студэнтаў, дзякуй ім за гэта.

Хаця і не да канца хапіла жменьцы арганізатараў энергіі ды слухачам самадысцыпліны, цэлае мерапрыемства можна лічыць прыкладам паспяхова правядзення ўдалай задумы. Прыкладам на тое, як простым спосабам ды невялікім коштам можна арганізаваць вельмі карысную справу, прытым на высокім узроўні. Патрэбныя, перш-наперш, некалькі заангажаваных чалавек, якія «выхадзяць» памяшканні, пару грошай і знойдуць выкладчыкаў.

У гэтым выпадку аўтарам ідэі і галоўным маторам, які спачатку накручваў, а затым цягнуў арганізацыйную каламажку, была Барбара Кучынская - прэзідэнт БАСу. Вакол яе круціліся, аказіянальна дапамагаючы, сябры арганізацыі і, перш за ўсё, Басі.

Дапамогу аказалі канкрэтныя асобы і ўстановы, за што Беларускае аб'яднанне студэнтаў выказвае ім шчырую падзяку. Найперш прафесару Яну Насовічу, загадчыку Інстытута усходнеславянскіх філалогій за дазвол бясплатна карыстацца дыдактычнымі памяшканнямі. Кіраўніцтву фірмы «Амега» з Бельска-Падляшскага ў асобах: Барбара Бабулевіч, Міраслаў Целушэцкі і Валянцін Сельвясюк - за 5 мільёнаў злотых, якія дазволілі запрашаць гасцей з Беларусі, і за ліст са словамі падтрымкі для ідэі курса. Сакратарцы з дэканата Гуманітарнага аддзялення Філіяла Варшаўскага універсітэта, пані Рыце Паплаўскай, якая дапамагала афармляць месцы ў гатэлі асістэнта для выкладчыкаў з Менска - без гэтага кошты ўтрымання гасцей значна перавысілі б сціплыя сродкі арганізатараў.

Крыху шкада, што курс не закончыўся дзяржаўным экзаменам па беларускай мове, як гэта планавалася напачатку. Арганізатары не змаглі знайсці і скамплектаваць экзаменацыйную камісію. Бася Кучынская абяцае, што БАС пастараецца давесці гэта восенню да канца. І, зразумела, у такой ці іншай форме працягваць ідэю курса беларускай мовы і «Беларускіх чытанняў».

**М.В.**

## Фота–вітрына



*На ростанях.*
*Фота Уладзіслава Завадскага.*

## СВЯТКАВАННЕ Ў ЯЧНЕ

У нядзелю, 14 чэрвеня бягучага года, якраз на Сёмуху, у Ячне, што на Дуброўшчыне, сабралася даволі многа людзей. Прыехалі сюды не толькі жыхары суседніх вёсак — Грабянёў, Хільмонаў, Гарасімавічаў, Дубасьна, Бянёўцаў і Ружанага Стока, але нават з Дубровы і Сідры. Многія з іх найперш ішлі ў мясцовую царкву, а затым у спецыяльна ўпрыгожаную маладзенькімі бярозкамі святліцу на канцэрт. Народны фэстын арганізавалі Ваяводскі асяродак анімацыі культуры, Беларускае грамадска-культурнае таварыства, Дуброўскі дом культуры і мясцовыя грамадскія дзеячы.

Са звыш трохгадзінным (крыху даўгаватым, але вельмі займальным) канцэртам выступілі жаночыя песенныя калектывы „Падлясянкі" з вёскі Хільмоны і „Дваранкі" з прысёлка Хільмоны, мужчынскі хор з вёскі Рыбалы (Заблудаўская гміна), саліст Юры Налівайка з Гарадка ды фальклорны ансамбль „Гарадніца" з Гародні (Рэспубліка Беларусь). Канцэрт вяла Валянціна Ласкевіч. Нашы літаратары , члены Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа" Віктар Швед і Янка Целушэцкі падпісвалі свае кніжкі. Удзельнікі чэрвеньскага святкавання ахвотна куплялі і кніжкі, і магнітафонныя касеты з мелодыямі, запісанымі падчас цэнтральных элімінацыяў конкурсу „Беларуская песня" з апошніх двух гадоў, а таксама з песнямі ў выкананні бельскага хору „Маланка".

Фэстын закончыўся, як гэта заўсёды бывала, народным гуляннем. Ігралі музыканты з Грабянёў.

А вось што сказалі нам арганізатары фэстына з Дубровы — Аркадзь Суліма і Уладзімір Парфен ды прадстаўнікі мясцовай моладзі і грамадскія дзеячы — Ян Бірута і Веслаў Санік:

**Сёлета адно з першых**

— Мясцовыя жыхары любяць беларускія мелодыі і танцы, але не толькі — яны любяць і самі іх выконваць, любяць спяваць народныя песні і некаторыя сучасныя. Для прыкладу, маем два хоры ў Хільмонах. Існуе хор у Грабянях. Маладыя і старэйшыя вельмі ахвотныя патанцаваць. І вось добра сталася, што прыехаў да нас Сцяпан Копа, зараз працаўнік ВОАК, і што наведалі нас работнікі Дома культуры ў Дуброве. Яны нас разварушылі і дапамаглі арганізаваць вось такое — на наш погляд, вельмі ўдалае — культурнае мерапрыемства. Хочам каб былі яны часцей. Каб фэстыны ў Ячне адбываліся кожны год ужо традыцыйна на Зялёныя Свёнткі (Тройцу).

Варта адзначыць, што гэтую задуму або проста думку горача падтрымалі прысутныя: дырэктар ВОАК Казімір Дэркоўскі і намеснік старшыні Галоўнага праўлення БГКТ Ян Сычэўскі.

Аб тым, што людзі тут гасцінныя, добразычлівыя і што любяць беларускую песню і танцы, можа сведчыць такі факт. Ансамбль з Гародні затрымаўся ў Дуброўскай і Навадворскай гмінах на некалькі дзён. Быў ён госцем у Дуброве, Ячне, Сынкоўцах і Хільмонах (вёсцы і хутары). Выступаў з канцэртамі. Жыхары Дубровы і навакольных вёсак рыхтавалі ім абеды і начлегі ў сваіх хатах. Хільмонаўскія хоры намервающца паехаць з канцэртамі ў Гародню. Іх запрасілі члены ансамбля „Гарадніцы" і яго кіраўнік Алег Лойка.

**ЯСЕНЬ**

## ЗАМАЛЁЎКІ З ЖЫЦЦЯ

### ЖЫЦЦЁ

Закончыўшы апошні клас пачатковай школы, Анэта пайшла на танцы. Як толькі ўвайшлі ў святліцу, падыйшоў да яе хлопец. — Я закахаўся, — сказаў ён сур'ёзна, — будзем цяпер разам, а мо й праз цэлае жыццё!

Сяброўкі засмяяліся. Дзяўчына пачырванела, але не вырвала сваёй рукі з рукі хлопца. Танцавала толькі з ім. Прытомна спытала, адкуль ён і што робіць. Янка закончыў прафесіянальную школу і працуе трактарыстам. Праз некалькі месяцаў пойдзе ў армію.

Анэта плакала, калі Янка ад'язджаў служыць у Варшаву. Здавалася, што ніколі яго не забудзе.

Забыла! Вельмі хутка забыла...

Як заўсёды разам з сяброўкамі пайшла на танцы. У святліцы было многа хлопцаў. Каля музыкантаў стаяў прыгажун. Быў такі, як у марах Анэты: высокі, чорны, кучаравы...

— Каб хоць раз з ім патанцаваць... — марыла дзяўчына.

— Чаго ты ўляпіла ў яго вочы? — смяяліся сяброўкі. — Маеш жа свайго Янку.

Здарылася так, як марыла Анэта. Юрэк цэлую забаву танцаваў толькі з ёю. Пасля танцаў пайшлі ў адрынку.

Праз два месяцы аказалася, што Анэта зацяжарыла.. Бацькі дакаралі яе, што нават школаў не закончыла... Згулялі вяселле. Праз сем месяцаў нарадзілася дачушка, а праз год ад нараджэння першай, нарадзілася наступная. Пасля нарадзіўся сын...

Жылі і працавалі на гаспадарцы. Юрэк любіў піць, хадзіць на танцы. Усе клопаты аб сям'і перайшлі на Анэту. Хутка пастарэла і пачала хварэць. Лекары гаварылі, каб перастала нервавацца, бо інакш пагражае ёй кровазліццё.

Заступіць на гаспадарцы не было каму, а рабіць трэба было за траіх. У Анэты кровазліццё наступіла. Доўга ляжала ў бальніцы, аж урэшце магла ўстаць на ногі і памаленьку хадзіць.

Працаваць не можа. За сваёй патрэбай было нават цяжка ёй выйсці...

— Ідзіце, — смяяўся Юрка да дачок, — памажыце вашай маці с..., бо сама не зможа.

Не раз папіхаў яе і крычаў абы за што.

— Эх, жыццё! — наракае жанчына. — Не варта закахацца ў прыгожым. Гэта забойства!

### ЯК ЯЎРЭІ

Паехала Манька ў горад Э. да дачкі. Ідзе, а тут раптам выбягае жанчына і цягне яе за рукаў.

— Хадзіце сюды, хадзіце, — просіць.

— Што здарылася? — пытае спалоханая Манька.

— Нічога. Вы не хвалюйцеся. Я вас доўга не затрымаю. Жанчына адчыніла дзверы і тут аказалася, што запрашала ў сваю краму. Было там рознай драбязы.

— Вось пабачце, у мяне кава і гарбата намнога танней, чым у другіх, а ніхто не хоча купляць. Купіце тут, а не пашкадуеце.

Што ж было рабіць? Купіла Манька крыху кавы, гарбаты.

Прадаўшчыца прасіла яе, каб часта прыходзіла і сказала другім.

— Не прыйду больш, бо я жыву далёка адсюль, — сказала жанчына. Я тут толькі часова.

— Якая шкада, — сумна сказала прадаўшчыца, — а я думала, што буду мець кліента.

— А Божа мой, — падумала Манька, — як яўрэі гэтыя прыватныя прадаўцы. Калісь толькі яўрэі цягнулі за рукавы ды полы і крычалі, — ты да мяне хадзі, я табе танней прадам.

**АЎРОРА**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# НАШЫ КАРАНІ

## XXXVII. ЗМАГАННЕ ЗА САМАСТОЙНАСЦЬ.

Пасля трыццаці аднаго года актыўнай і плённай пастырскай дзейнасці памёр у 1406 г. мітрапаліт Кіпрыян. На жаль, разам з ім адышоў таксама час, калі Праваслаўная Царква ў Вялікім княстве Маскоўскім і Беларускай дзяржаве /Вялікім княстве Літоўскім/ была моцная сваёю еднасцю, узвышаючыся па-над міждзяржаўнымі спрэчкамі і намагаючыся пагаджаць пануючых у абедзвюх краінах, адначасова маскоўская і навагардская мітраполіі захоўвалі сваю фактычную самастойнасць і незалежнасць. Гэта ў вялікай ступені дапамагло Праваслаўнай Царкве ў Беларускай дзяржаве пераможна пратрываць часы націску з боку Каталіцкага Касцёла ў выніку Крэўскай уніі 1385 года. Пасля смерці ўладыкі Кіпрыяна князі маскоўскі Васіль і беларускі Вітаўт, ужо ў паасобку, звярнуліся да патрыярха, каб паставіў кожнаму з іх мітрапаліта, прытым Вітаўт запрапанаваў свайго кандыдата - архіепіскапа полацкага Феадосія. Патрыярх не ўхваліў Вітаўтавага кандыдата і паставіў у мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі прыхільнага Маскве Фоція. Заняты падрыхтоўкай да Вялікай вайны супраць крыжацкага Ордэна князь Вітаўт пагадзіўся з патрыяршым рашэннем, але патрабаваў, каб новы мітрапаліт стала жыў у Кіеве і належным чынам апекаваўся Царквою ў ягонай дзяржаве.

Аднак мітрапаліт Фоцій не валодаў такімі выдатнымі дыпламатычнымі здольнасцямі, як яго папярэднік. Пасяліўся ён на стала ў Маскве і садзейнічаў толькі яе князю, а наведваючы беларускія і ўкраінскія землі, абкладаў тамашняе духавенства вялікімі данінамі, нават пачаў вывозіць з Кіева ў Маскву царкоўныя святасці і скарбы. Гэта выклікала абурэнне праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў. Вітаўт жа пасля трыумфальнай перамогі пад Грунвальдам у 1410 годзе пачаў больш прыхільна ставіцца да сваіх праваслаўных падданых. На полі бою ён увачавідкі пераканаўся ў іх бязмежнай ахвярнасці Радзіме і ў незвычайным гераізме ў змаганні з крыжакамі. Князь стаў у абарону Праваслаўнай Царквы ў сваёй дзяржаве. Фоцій быў затрыманы княжацкімі людзьмі на граніцы, у яго адабралі насцяганае ім дабро, самога ж бясслаўна адправілі ў Маскву. Пасля гэтага і Фоцій і Вітаўт выслалі ў Канстанцінопаль адзін на другога скаргі, якія толькі абвастрылі іх узаемныя адносіны.

Вітаўт пачаў больш катэгарычна дамагацца ў патрыярха аднаўлення асобнай самастойнай мітраполіі ў Беларускай дзяржаве. На скліканым ім у 1414 годзе саборы епіскапаў быў ухвалены кандыдатам на мітрапаліта выдатны прапаведнік і вучоны, пляменнік нябожчыка мітрапаліта Кіпрыяна, архімандрыт Рыгор Цамблак і накіраваны дзеля высвячэння ў Канстанцінопаль. Аднак, пад уздзеяннем маскоўскага мітрапаліта патрыярх не толькі не згадзіўся пасвяціць Вітаўтавага кандыдата, але пазбавіў яго ўсіх царкоўных годнасцяў і нават адлучыў ад Царквы.

Абураны такім патрыяршым учынкам Вітаўт склікаў новы сабор епіскапаў і за іх парадай прасіў яшчэ раз патрыярха паставіць мітрапаліта Вялікаму княству Літоўска-Беларускаму, ужо не падаючы свайго кандыдата. Калі патрыярх нават не звярнуў увагі на Вітаўтавы з епіскапамі просьбы, тады сабор епіскапаў, а сярод іх былі архіепіскап полацкі Феадосій і епіскап тураўскі Яўфімій, у епархіі якіх уваходзілі землі сённяшняй Беласточчыны, з удзелам архімандрытаў, манахаў і святароў разам з князямі, вяльможамі і знатнейшымі баярамі 15 лістапада 1415 года ў Свята-Барысаглебскім саборы ў Наваградку паставіў у мітрапаліта Рыгора Цамблака.

Такім чынам Праваслаўная Царква ў беларускай дзяржаве сталася аўтакефальнай царквою, гэта значыць цалкам незалежнай ад замежных духоўных уладаў. Гэта адпавядала таксама імкненням Вітаўта да поўнай незалежнасці духоўнага жыцця яго праваслаўных падданых. Праваслаўная Царква на беларускіх і ўкраінскіх землях пачала кіравацца сваім мітрапалітам і сваім саборам. Сабор накіраваў патрыярху абшырны ліст, у якім падрабязна выказаў прававыя і духовыя падставы выбару ім мітрапаліта, спасылаючыся на прыклады абрання кіеўскага мітрапаліта Іларыёна, мітрапаліта Клімента Смаляціча, а таксама пастаўленне епіскапамі мітрапалітаў у Балгарыі, Сербіі без згоды патрыярха, паводле Апостальскага правіла: «Два або тры епіскапы высвячаюць мітрапаліта».

Сабор звярнуўся да ўсіх праваслаўных з пасланнем, у якім падкрэсліваў, што пастаўленнем архімандрыта Рыгора ў мітрапаліта «мы не адасабляемся ад Усходняе Царквы - надалей прызнаём усходніх патрыярхаў, мітрапалітаў і епіскапаў айцамі і братамі, згодна з імі захоўваем вызнанне веры». Таксама Вітаўт у падобным лісце да сваіх праваслаўных падданых, між іншым, пісаў: «Калі б мы /гэта значыць: сам князь - М.Г./ хацелі, каб у нашых уладаннях вера ваша вынішчалася і вашыя цэрквы стаялі неўладкаванымі, то мы б ні пра што не клапаціліся...» і далей: «але мы, жадаючы, каб ваша вера не зводзілася і храмы вашыя былі ў належным ладзе, паставілі саборам мітрапаліта на Кіеўскую мітраполію, каб рускі /гэта значыць: беларускі і ўкраінскі - М.Г./ гонар непарушана стаяў на зямлі».

**МІКОЛА ГАЙДУК**

# СТВОРАНА БЕЛАРУСКАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ БРАЦТВА

27 красавіка г.г. на дзень трох Віленскіх пакутнікаў адбыўся ўстаноўчы сход Беларускага праваслаўнага брацтва трох Віленскіх пакутнікаў пры Свята-Петрапаўлаўскім саборы г. Менска. Нягледзячы на шматлікія велікодныя клопаты, Пачаснейшы Уладыка Філарэт, Мітрапаліт Менскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі знайшоў магчымасць прыехаць на сход і вітаць стварэнне брацтва. У сваёй прывітальнай прамове ён адзначыў спрыяльны паварот у жыцці царквы, звязаны з шырокай дапамогай з боку вернікаў і міранаў, якая раней не была магчымая. Выказаў надзею на стварэнне падобных брацтваў пры кожным прыходзе Беларускае Праваслаўнае Царквы. Пачаснейшы Уладыка блаславіў стварэнне брацтва і пажадаў яму плённай працы.

Праца сходу пачалася са справаздачнага спавешчання часовага старшыні М. Матрунчыка, у якім ён распавёў пра ўзнікненне брацтва, ягоныя мэты і задачы. У прыватнасці, было адзначана, што ідэя стварэння брацтваў выспела ў нашым грамадстве і знаходзіць водгук у сэрцах шматлікіх праваслаўных вернікаў-беларусаў. Пра гэта сведчыць і даволі хуткі рост братчыкаў і прыхільнікаў: з 9, на пачатку года, да 100, на момант устаноўчага сходу.

Ідэя брацтва - спалучэнне адвечнае праваслаўнае веры нашых продкаў з сучасным культурна-нацыянальным жыццём нашага народа.

Затым выступіў чэльнік брацтва, народны дэпутат Валянцін Голубеў. Як гісторык, ён узгадаў выключна важную ролю брацтваў на Беларусі ў абароне і захаванні бацькоўскае веры і нацыянальнае культуры. Выказаў спадзяванне на тое, што наша брацтва станецца спадкаемцам найлепшых традыцый брацкага жыцця, абаронцам веры і беларускасці на шляху адбудовы незалежнай дзяржавы. Пасля невялікіх дыскусій, па прапанове В. Голубева і чэльніка брацтва сп. Астапенкі, была ўдакладнена назва брацтва як Беларускага праваслаўнага брацтва.

Па ходзе абмеркавання статута былі выказаны шэраг іншых слушных прапаноў і меркаванняў. Агульны сход пастанавіў даручыць пашыранай радзе дапрацаваць статут у адпаведнасці з выказанымі заўвагамі.

Сход зацвердзіў склад пашыранай рады, у якую ўвайшлі 9 святароў /а. Сергій Гардун, а. Віталій Радамысльскі, а. Дзімітрый Башко, а. Ігар Карасцелеў, а. Анатоль Кавалёў і інш./, тры семінарысты Жыровіцкае семінарыі /Ю. Сакалоў, У. Шыдлоўскі, А. Кароль/, дзеячы беларускае культуры і навукі /У. Конан, А. Клышка, Г. Каханоўскі і інш./. Па прапанове галоўнага апекуна брацтва а. Георгія Латушкі аднагалосна абраны старшыня /М. Матрунчык/ і заступнік старшыні брацтва /А. Анціпенка/.

Пасля зацвярджэння рабочых органаў з прапановамі па наладжванню будучага жыцця брацтва выступілі ягоныя чэльнікі. У прыватнасці а. Дзімітрый засяродзіў увагу братчыкаў на неабходнасці штодзённай працы па духоваму самаўдасканаленню, паглыбленню веры, рэлігійнай адукацыі і самаадукацыі. Чэльнік пашыранай рады В. Трыгубовіч адзначыла надзённую патрэбу ў рэлігійным выхаванні беларускае моладзі, выказалася на карысць наладжвання шчыльных сувязяў і плённага супрацоўніцтва з праваслаўнымі суайчыннікамі замежжа.

Брацтва віталі шматлікія госці, прадстаўнікі іншых канфесій. З вялікай цеплынёй прысутныя сустрэлі хор брацтва, які спяваў беларускія велікодныя канты і іншыя духоўныя творы.

/А./



*Петрапаўлаўскі сабор на Нямізе ў Менску.*



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# СМЕРЦЬ У ДЗЕНЬ СВЯТА КАНСТЫТУЦЫІ

Апавяданне

Міра Лукша

Быў сонечны кастрычніцкі дзень.

Грыбы ў інтэрнат мінскай кансерваторыі прынеслі Віця і Эла. Поўную торбу. Назбіралі б яшчэ больш, але не ведалі, што браць, і жніво закончылі толькі на адным кульку.

У інтэрнаце звярнуліся за парадай да Алеся. Той зморшчыў нос, сфалдаваў лоб і адрэзаў:

- Усе яны - воўчыя!

І праўда, нават лісічкі былі нейкія дзіўныя, аж чырвоныя. А найбольш ядавіта выглядала нейкая бледная паганка на тонкай доўгай ножцы...

- Ой, то нашто ж мы іх збіралі?! - Віця амаль не заплакаў. - Скажы, калі ласка, што хоць адзін грыбок добры. Мы ж так стараліся!.. Ну паглядзі, вось гэты - які прыгожанькі... Грузд ці што?

- У нас на Беласточчыне называюць такое «штосьці» хіба што свінкай, - я пакратала капялюш грыба. - Але чаму ён такі цёмны?

- Нічога страшнага, гэта толькі ад радыяцыі, - пацешыла нас Эла.

- Ты глядзі, Віць, паспрабуй, ці скурка здымаецца з капелюша? Мая бабуля, нябожчыца, казала, што калі здымаецца, дык гэта не будзе воўчы грыб.

- Ага, але ад чаго яна нябожчыцай стала, ці не ад грыбочкаў часам? - бліснуў чорным ангельскім гумарам Алесь.

- Ці ўсе вы на Брэстчыне такія гумарысты? Смерць не любіць жартаў.

Віця асцярожна ўзяў нейкі далікатны ружова-бэжавы грыбок, пацягнуў за скурку. Злезла.

- Алесь, а як жа ён называецца?

- Адкуль мне ведаць?.. Ну, можа, бледная паганка.

- А гэтая бэтка са спадніčкай пад шапачкай - ці гэта не будзе страшны мухамор-срамотнік?! - я нацэлілася ўжо ўкінуць яго ў кошык пад сталом.

- Які-і-і мухамо-ор?! Я табе дам мухамор! Ці бачыш ты дзе якія кропкі?!. - ашчэрыўся Віця. Ён, калі ўзрушваўся, праяўляў свой украінска-малдаўскі характар.

- Рабі, Віцька, што хочаш, але я гэтай атруты есці не стану, - занерваваўся Алесь і сеў за піяніна. - У чацвер я плакаў над «Рэквіемам»... Каб не было гэта прадказаннем!

- Алесь, ты такі вялікі, любіш добра паесці, то калі нават і з'ясі атруту, абавязкова выжывеш... А вось Віцька... - уздыхнула Эла.

Віця затрапятаў доўгімі вейкамі:

- Ды ты не бойся... Жыццё такое цяжкое. Што смерць?.. Калі паміраць, то хоць у добрай кампаніі, - ён узяўся чысціць грыбы.

- Не хачу я гэтага бачыць! - усё больш кіпеў Алесь. - Папрыносілі нейкай поскудзі, навалілі на стол!..

- Віця, а можа, ты спачатку бяры кожны грыб на язык, - параіла я. - Я ж сама з Белавежскай пушчы, ведаю. Горкі грыб - воўчы грыб.

- А потым добра выпар кіпетнем язык, і ўсё будзе о'кей! - буркнуў Алесь з ядавітай ухмылкай.

- Вы, спадар Арабей, не будзьце такім радыкальным. Забіраю грыбы на кухню, і зраблю ўсё так, каб вы потым прасілі: «Дай грыбочкаў з бульбачкай...»

- А ідзі ты!.. - махнуў рукой ад піяніна Алесь.

Эла і Віця Кажухар узялі патэльню, вялікі чыгунок і патурылі ў канец доўгага бруднага калідора, у прасторную, заваленую амаль пад столь шкарлупінамі яек, лісцем капусты і бутэлькамі кухню...

- Ужо кіпіць! - убег у пакой Віця. - Што рабіць?!

Я акурат дапісвала апавяданне пра таямніцы старой Вільні. Алесь не павярнуў нават вухам ад сваіх нот.

- Воўчыя грыбы трэба кіпяціць дзесяць разоў! - я не сумнявалася ў такой парадзе.

- Хадзем, пабач... Бледную паганку мы выкінулі - на кухні адна дзяўчына сказала, што ад яе можна памерці адразу... Праўда, паганка бадай зварылася ўжо...

Я паспяшыла на кухню. Грыбы адцадзіла і заліла новай вадой. Яны, ужо бледныя, варыліся трэці раз, і Кажухар рашыў:

- Іх больш варыць не трэба. Вада ўжо чыстая, бачыце? Эла, чысць картоплю.

- Віця, цяпер перасмаж іх з цыбулькай, а потым дабавім бульбы...

- Не! Картопля падсмажыцца - мы іх і ўкінем на патэльню.

- Віценька, калі грыбкі падсмажваць асобна, рэштку іх воўчасці пераесць тлушч, і смаку нейкага набяруць...

- Я зраблю так, як планаваў! - Кажухар не любіў, каб яму пярэчылі. - А ты ідзі дадому, там Арабей сумуе!

Праз паўгадзіны Эла з Віцем унеслі чыгунок з цудоўна пахучай стравай. Алесь неспакойна затупаў па пакоі. Рукі пайшоў памыць. Потым дастаў з халадзільніка «Ркацітэлі».

- Калі есці грыбы з алкаголем - атрута не страшная. Гэтае ж самае і з радыяцыяй... - супакойваў сябе Алесь.

- Што ж, здаравейшы памрэш, - я села далей ад стала, на якім красаваліся салата з памідораў з цыбулькай /ах, як засмактала ў страўніку!/ і бутэлька, а на талерках паравала бульба з грыбамі. Я пацягнула сваю талерку да сябе.

- Хіба што хутчэй памрэм... Алкаголь хуценька распускае атруту, і яна пачынае кружыць па крыві, даходзіць да мозгу, і толькі лапкі падкурчым, як тая муха, спажыўшы мухамор... - разважаў Алесь.

- Воўчы грыб паражае пячонку, - удакладніла я. - Яна робіцца, як халадзец... Мозг яшчэ робіць, а вантробы - вон!.. - цешылася я невядома чым, выбіраючы бульбу, а грыбы ціхачом адсоўвала на бераг талеркі.

Алесь аблізаўся, косячы вокам на маю долю:

- Дай мне іх лепей, не марнуй...

- Ты што - п'яны?.. Я не хачу, каб ты паміраў!.. Віця, колькі ў тваіх бацькоў дзяцей?

Грымнуў смех.

- Я адна ў маіх бацькоў... - ледзьве прамовіла з поўным ротам Эла. - Ай, якая смаката!

- А ў мяне ёсць старэйшы брат, - Алесь вылізаў талерку і прысунуўся бліжэй да мяне. Я схапіла свае грыбы і панесла ў прыбіральню.

- Як ты магла такое зрабіць?! - абурыўся Алесь. - Яны ж так стараліся!

- Не адчуваеце яшчэ болю ў пячонках?.. Ага, распускаюцца ўжо, распускаюцца! - У маім жываце штосьці забурчэла. - Усё ж, шкада паміраць... І цяпер, калі Беларусь незалежная ўжо. Божа мой, такіх геніяльных маладых людзей страціць!.. Алесь, мілы мой, пастаў «Рэквіем». Выпруцімся хоць пры добрай музыцы. І ў такой выдатнай кампаніі...

Алесь на мяккіх нагах пайшоў да грамафона, узяў у далоні кружэлку з дзіцячымі патрыятычнымі песнямі.

- Паслухаем лепш нешта больш аптымістычнае... Хацеў завезці гэтыя кружэлачкі як падарункі ў Англію, ды і не даехаў.

Эла аж узмакрэла ад смеху. У вачах Віці буялі адчай, якаясьці кропелька жалю і дзікая радасць. Чаго ж так верашчаць яны, галёкаюць, пішчаць, рагочуць?! Віця, як дзіцё



Калі жонка — у санаторый, а муж застаецца адзін.

# ПЛАТНАЕ КАХАННЕ Ў БОЛЬШЫХ ГАРАДАХ

Калі я працаваў гардэробшчыкам у „Саве" — кавярні ў цэнтры Ольштына, то нагледзеўся ўсяго: як людзі біліся, як ляцелі люстры, шыбы і г.д. Бачыў я там заўсёды прыгожых дзяўчат, што сядзелі, цэдзячы каву, і чакалі кліентаў. Заўсёды тыя самыя твары! З некаторымі я пазней пазнаёміўся і нават пачынаў размову.

Сёння гутараць са мною:

**Моніка** — 29 гадоў, незамужняя медсястра, **Агатка** — гадоў 25-ці, вышэйшая адукацыя (псіхолаг), **Ева** — 20 гадоў, без школы. Прыгожыя, зграбныя, як кажуць, з сексам дзяўчаты.

**Ева:** Я гэта раблю па традыцыі. Мая мама ўжо працавала ў гэтай галіне, вельмі любіла люксусныя варункі, не хацела цяжка працаваць.

**Моніка:** Як стаць прастытуткай? Або выпадкова, або па закліку сэрца. Але трэба мець талент! Я пачала гэта рана, у 12 гадоў. Пасля хадзіла з рознымі хлопцамі і ўсіх іх забаўляла ў пасцелі. Толькі пазней зразумела, што можна спалучыць прыемнае з карысным. Прадаваць сябе — гэта своеасаблівы спосаб на жыццё.

**Агатка:** Нашыя заробкі? Пэўна, што ў правінцыяльным горадзе заробіш менш, чым у Варшаве ці ў прыморскім горадзе. Усяго будзе 6—8 мільёнаў злотых.

**Ева:** Канкрэтна? За „нумар" бярэм 100 доляраў. Вядома, гэта стаўка — не нейкая пастаянная норма. Цана залежыць ад пары года, ад курсу долара. Калі бачым, што мужчына аж гарыць, а пры тым яшчэ багаты, тады павышаем цану. Шмат залежыць таксама ад узросту кліента. Напрыклад, учора падчапіла я нямецкага дзеда, дык я сказала: 300 доляраў. Калі трапіцца абы-хто, дык п'ю многа гарэлкі, а тады ўжо мне ўсё роўна, хто мяне рубае.

**Моніка:** У мяне свае правілы: я сама выбіраю кліента і стаўлю ўмовы. Прытым ніколі не зачапляю мужчын, не зводжу іх. Але калі хтосьці мне падабаецца і добры ў пасцелі, дык магу застацца з ім без грошай аж да раніцы. Абы-хто мяне не цікавіць. А здараецца і так, што калі нехта мне спадабаўся і прыйшоў на другі дзень, даю яму 30-працэнтную зніжку.

**Агатка:** А я толькі раз працавала задарма. Гэтага негра, бадай, запамятаю да канца жыцця. Студэнт з Сенегала. Божа, што ён са мною рабіў! Вядома, што негры гэта знакамітыя каханкі. Але такіх акрабатаў ніколі не сустракала. Вось дзе была лекцыя сексу!

**Моніка:** Мы не расісткі. Няважна, негр гэта, араб ці в'етнамец. Галоўнае, каб меў кашалёк. А мы адразу пазнаем кішэнь кліента. Ёсць на гэта спосаб. Усё пра мужчыну гавораць яго чаравікі!

**Ева:** Калі „кантракт" „падпісаны", тады ў холе кавярні заказваем „дрынкі", а ўжо пасля гэтага ідзем „на хату". Спачатку іду ў ванную і хаваю грошы. Дзе? У вопратцы, дзе ёсць спецыяльныя „скрыткі". Ну, тады хуценькае мыццё і... да работы, пакуль кліенту не адхацелася.

**Моніка:** Кліенты маюць розныя выманні. Найчасцей хочуць кахацца „па-божаму", але калі ўжо задаволяць сваю першую патрэбу, дык хацелі б імправізаваць. Кліент — наш пан. Калі хоча і плаціць, дык я магу кахацца нават на абажуры. А каханне па-французску? Чаму ж не? Цана — 200 доляраў.

**Агатка:** Найгорш,калі трапіцца мужык з комплексам горшасці. Асабліва, калі прастытутка мае быць для іх лякарствам на імпатэнцыю. Ой, колькі з імі валакіты! Спачатку жаляцца над сабою, якія яны нешчаслівыя, а пасля разам марнуем час. У канцы — плач і просьба ратаваць яго.



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

шматнацыянальнага савецкага народа, тлумачыць нешта Элі - ні то па-украінску, ні то па-беларуску, і ў дзяўчыны таксама пачало нешта атрымлівацца з цеканнем і дзеканнем.

- Алесь, як ты сябе адчуваеш? Хіба ты не пампэш?! І я не хачу цяпер паміраць. Я ж не дакончыла свайго апавядання!

- Ты не пампэш, не бойся... Калі што мае быць, адчуеш праз шэсць гадзін.

Мы памылі посуд. Віця з Элай выйшлі.

Алесь прылёг на свой ложак, глядзеў на тэлевізар. Я прагна піла ваду.

- Блага мне, Алесь.

- Угаварыла сябе... Ты ж не ела грыбы.

- Але ты еў... Ты такі вялікі, і пакуль атрута разыдзецца па ўсім целе...

Я лягла на суседнім ложку. Глядзела ў экран. Ну, Талькова забілі... Ага, паказваюць жыццё. Якое жыццё на экране ці ў кніжцы? Жыццё - на вуліцы!

- Алесь, вой, як у мяне галава баліць... І сэрца трапечацца...

- Яно трапечацца не ад грыбоў.

- А ад чаго?

- Запытай у яго.

Я заплюшчыла вочы. Здавалася, ложак ляціць у космас, што мяне ўжо няма...

- Вой, Алесь, як кружыцца галава...

- Гэта не ад грыбоў кружыцца!

- А ад чаго?

- Сама ведаеш...

Гэта было ўсё, што памятаю.

Раніцай я расплюшчыла вочы. Алесь хроп, з коўдрай, падцягнутай пад бараду, румяны, з прыпухлымі ад сну вуснамі.

- Ага, ружовы такі, значыць, жывыздаровы. А мне штосьці пячонка рэжа, значыць, яна ў мяне яшчэ ёсць. А што з Віцем і Элай? Яны ўжо ўчора вельмі кепска выглядалі, верашчалі, як адурманеныя... - разважала я ўголас, цяжка лыпаючы вейкамі.

Скрыпнулі дзверы. На парозе сталі нашыя сябры. Былі яны, праўда, трошку зеленаватыя, з сінімі мяшкамі пад вачыма. Можа, ноччу не спалі?

- Міра, мы жывыя.. І вы, бачу, на гэтым свеце. Усё ж, памерці на дзень Канстытуцыі, у адно з апошніх савецкіх святаў, было б цікава!.. - Віця быў такі вясёлы!..

- Мы ж - беларусы. Мы - выжывем!

**МІРА ЛУКША**

# МАЛЕНЬКІЯ ТРАГЕДЫІ ВЯСЁЛАГА КРАЮ

**Проза**

1.

Сталічны мастак дзесьці на Браслаўшчыне купіў хату. Пасьля жніўня 1991 года й абвяшчэньня Рэспублікі Беларусь прыходзяць да яго тамтэйшыя мужыкі спытаць, што будзе - мастак жа знаёмы з начальствам БНФ, «новай уладай».

- Слухай, Аляксей, - кажуць, - а пад кім гэта мы цяпер будзем?

- Як пад кім?! Самі будзем, незалежныя.

- Не-е, гэта мы разумеем, што самі! Але пад кім? У нас кажуць, пад палякамі, а другія - пад немцамі...

- А самі як думаеце? - сьмяецца мастак.

- Мусіць, усё ж пад немцамі...

- Чаму пад немцамі? - перапытвае мастак ужо зьлёгку ашарашана ад такой паважнай размовы.

- А колькі тых палякаў! - лягічна зводзіць канцы з канцамі просты неадукаваны вясковец.

2.

У Гародні пры Брэжневе збудавалі новы завод, панаехала спэцыялістаў і ня толькі - пераважна з Казані. У 1984 годзе, толькі-толькі атрымаўшы кватэры, трох казанцаў, татарын і двох расейцаў, падаліся назад - казалі, што надаела чуць на сабе штодзень страшэнны мясцовы нацыяналізм... Вось тут і зразумей што-небудзь, з нашым народам...

3.

Газэтны вулічны гандляр у Гародні апавядаў такую байку з жыцьця. Стаіць ён пасьля рэфэрэндума 17 сакавіка 1991 года на вуліцы Савецкай і прадае старую газэту «СВАБОДА» з заклікам галасаваць супраць СССР.

- Чьто, БНФ? - пытае сярэдніх гадоў хлопец.

- Ну, - дыпляматычна кажа гандляр.

- Ладно уж, давай. Пасмотрим, чьто вы там пишете...

Бярэ, чытае, трапляе на інструкцыю, як галасаваць.

- Халера! - кажа зусім па-свойску, забыўшыся, што знаходзіцца «у абшчественнам месце». - А я, дурны, прагаласаваў за...

4.

Усё роўна нічога ня роўна! Таямніцу душы народа адкрыў адзін парлямэнтарый з былых камуністаў - дарэчы, калі разагналі ЦК, то ніжэйшыя разгаварыліся вельмі трапна. «У народа главный вопрос - это питание», - выдаў парлямэнтарый згаданую вышэй таямніцу.

5.

Пры маладым яшчэ Брэжневе трох рэцыдывістаў са Скідаля паехалі за Краснаярск зарабіць капейку - пэўна, бліжэй на працу ня бралі. У канцы таго ж лета вяртаюцца... «Уй дзікі народ! Уй дурная Расея! Стаіць вагончык, заходзім - ну, няма чаго браць... Ну нічога! Так, пару гарнітураў, тое-сёе... Сядзім у сябе, выпіваем - налятае цэлая банда, разьбілі вокны-дзьверы, гналі пару кілямэтраў, мала не забілі - уй дзікі народ, дур-рная Расея!»...

6.

Адна знаёмая знаёмай мае знаёмай адчула у сабе патрыятызм дзесьці ў 1988 годзе. Кажа, нават сама б па-беларуску загаварыла. «Адно толькі плоха» - ёсьць, кажа, у вас нейкае слова с а п р а ў д ы, ну вот не люблю гэтае слова, хоць ты што хочаш. Выкіньце - і загавару па-беларуску..

7. Бацька Максіма Багдановіча, служачы банка, намаганьнямі літаратуразнаўцаў Рэспублікі Беларусь трапіў таксама ў вялікія патрыёты, галоўным чынам, дзякуючы пэнсіі, якую атрымваў ад ураду БССР. Ужо атрымваючы, пісаў ён нейк прыяцелям на Беларусь прыблізна так: маўляў, гэта „очень хорошо, что возрождается наш белорусский язык, но много вы употребляете польских слов, например, а п о ш н і; куда естественнее было бы говорить по-нашему, по-белорусски - паследни..."

8.

А цяпер за гэткую цытатку мне галаву адкруцяць!

9.

Сьвядомасьць народа расьце намаганьнямі менскага радыё. Неяк ціха стаю з талёнамі ў чарзе. Заходзіць просты рабочы мужык, кажа: «Спадарства! Кто последний за водкой?»...

Троху гісторыкаў-філёлягаў, троху папы-Багдановіча - і выходзяць стопрацэнтовыя беларусы. Сапраўды.

10.

Часам зьбяруцца сваякі. Тое-сёе... Потым пытаюць, як там твае вершы - добра, кажу, можа, што й будзе, аванс вось далі, 850 рублёў... «За один стих?». Не, кажу, за ўсе разам... Цішыня... «Слушай, - кажуць, - а зачем тебе это надо?»...

**АЛЕСЬ ЧОБАТ**

# ВЕР-НЕ-ВЕР

Астроне! Прысніўся мне дзіўны сон. Хачу табе сказаць, што я працую ў службе здароўя. І вось сніцца мне, быццам прыйшла я ў бальніцу, дзе калісьці працавала. Я гляджу: усё там быццам бы так, як і было, ды толькі ніводныя дзверы не маюць клямак. Я вельмі здзіўлена, бо былі там на дзвярах калісьці вельмі прыгожыя латунныя клямкі. Быццам бы нехта іх пакраў ці што. Што гэты сон можа абазначаць?

**Эва**

Мне прыснілася, што мяне згвалціў вядомы польскі спявак (не буду называць тут яго прозвішча, бо не выпадае). Але адкуль ні вазьмі паявіўся мой муж-волат. Схапіў ён гэтага чалавека, забіў, перакінуў на плячо і панёс. Я вельмі непакоюся гэтым сном, бо свякруха мая надта хворая. Можа, памрэ?

**Яніна**

Эва! Твой сон сведчыць аб тым, што будзеш мець нейкія непрыемнасці на рабоце. Будуць нейкія „дзверы", у якія немагчыма будзе ўвайсці. У кожным выпадку, як бы нейкая страта.

Яніна! Твой сон абазначае для вашай сям'і небяспеку. Мо сапраўды стан здароўя тваёй свякрухі пагоршыцца.

**АСТРОН**

# ПАДЗЯКА

Рэдакцыі „Нівы" і „Часопіса" сардэчна дзякуюць Канадскаму Таварыству „Беларусь" (а ў прыватнасці ягонаму старшыню А. Палескаму) ды беларускай грамадзкасці Злучаных Штатаў і Канады за ахвяраванні (2000 $) на закуп лазернай друкаркі дзеля гэтых выданняў.

**Ева:** А колькі мужчын мае комплексы з тае прычыны, што ў іх малы член! Дарэчы, велічыня яго не адыгрывае галоўнай ролі. Былі ў мяне цудоўныя каханкі з усякімі размерамі. Былі і такія, на якіх маглі б насіць вядро з вугалем, а ў пасцелі былі да нічога. Ат, на гэтую тэму можна было б доктарскую дысертацыю напісаць.

**Агатка:** AIDS? Кожны з нас баіцца „адзідаса". Як асцерагаемся перад гэтай хваробай? Прэзерватывамі і сваім носам. Кожная з нас стараецца сваім рэнтгенам прасвятліць кліента. Мы ж рызыкуем, дык стараемся карыстаца толькі заходнімі прэзерватывамі. Польскія — малаэластычныя і лопаюцца, як навагодня шары.

**Ева:** Ды і цяжарнасць можа здарыцца... Ліха не спіць! Я не працую ў плодныя дні.

**Агатка:** А я хацела б у недалёкай будучыні мець сваё дзіця. Сур'ёзна думаю аб тым, каб выйсці замуж, найлепш за іншаземца. Не была б супраць, каб гэта быў адзін з маіх кліентаў. Кажуць, што прастытуткі бываюць добрымі жонкамі і маці. Многа праўды ў гэтых словах.

**Моніка:** Найцяжэй, аднак, развітацца з гэтай „прафесіяй". Чалавек прывыкае да вялікіх грошай. Але часамі не магу перанесці гэтых стрэсаў, начных забаў, кавярнянага шуму, смуроду спацеўшых мужчын. Колькі разоў я ўжо сабе гаварыла, што канчаю, а пасля адцягваю гэты момант — яшчэ тыдзень, месяц, год...

**Агатка:** Праўда, што зарабляем добра, але ж і выдаткі ў нас немалыя: модная вопратка, прычоска, касметыка, штомесячныя візіты ў лекара. Вядома, кожны месяц адкладаю пару мільёнаў. Гэта мой капітал і мой пасаг. У чалавека ж адно жыццё і трэба распараджацца ім як мага лепш.

**Ева:** А часы цяпер цяжкія. Кожны хацеў бы зарабіць на нас: афіцыянт, таксіст. Ды і канкурэнткі не спяць: дарагавізна і беспрацоўе павялічвае нашы „кадры".

**Агатка:** Ці мучыць мяне сумленне, што такая мая „прафесія"? Часамі. Аднак, найлепшым лякарствам на ранішні „кац" бываюць грошы. Працуючы на дзяржаўнай пасадзе па сваёй прафесіі псіхолага, я б таго, што цяпер маю, не дарабілася б да пенсіі.

**Моніка:** Мае бацькі ведаюць праўду пра мяне. Не могуць гэтага заакцэптаваць. Моляцца, каб я стала жыць нармальна. Але, калі даю ім мільён у месяц, дык ад грошай не адмаўляюцца. Сястры часта аддаю сваю вопратку, бо колькі ж можна хадзіць у тым самым!..

**Агатка:** Паверце, мы - дзяўчаты, як і іншыя. Я ведаю, што многія сяброўкі з гэтай „работы" кепска канчаюць. Трэба ведаць, калі адыйсці. Ну, і кожная з нас марыць пра вялікае каханне. Мы верым, што яно дапаможа нам вярнуцца да пачцівага жыцця.

**Размаўляў для „Нівы" ў гасцініцы „Novotel": АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК,**

**Ольштын**



# У ГАРАДОЦКАЙ ГМІНЕ

*працяг са стар. 1*

У гарадоцкім доме культуры бібліятэка, відэабібліятэка і сатэлітарнае тэлебачанне. Была ідэя, каб падключыць сатэлітарнае тэлебачанне таксама і прыватным карыстальнікам, але не «спрацавала». Пры доме культуры працуе некалькі калектываў: танцавальны /у трох групах/, тэатральны, музычны, пластычны і хор. Гарадоцкі дом культуры цесна супрацоўнічае з культурнымі ўстановамі Бераставіцкага раёна. Часта адбываюцца тут выступы беларускіх калектываў з суседняй Бераставіцы. Адна бяда ў тым, што калектывы гэтыя часам прыязджаюць без папярэджання.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

НІНА АМЕЛЬЯНЮК

# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**IV. СУЧАСНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРНАЯ МОВА. ЛЕКСІКАЛОГІЯ.**

**13. Стылістычная дыферэнцыяцыя лексікі 1.**

Мова развіваецца ў пісьмова-кніжных і вусна-размоўных стылях.

Да пісьмова-кніжных адносяцца:

- **навуковы стыль** — мова газет і часопісаў, публічных выступленняў,
- **афіцыйна-дзелавы стыль** — мова кодэксаў, статутаў, інструкцый, актаў, дагавораў,
- **мастацкі стыль** — мова мастацкіх твораў розных жанраў.

Сярод вусна-размоўных стыляў вызяляюцца:

- **літаратурна-гутарковы стыль** — мова, характэрная для непасрэдных, асабістых зносін паміж людзьмі у розных сферах дзейнасці: вытворчай, грамадска-палітычнай, навуковай, культурнай, спартыўнай і інш.
- **размоўна-бытавы стыль** — мова, характэрная для пазаслужбовых, паўсядзённа-бытавых зносін паміж людзьмі ў бытавой і сямейнай сферах.

У кожным са стыляў выкарыстоўваецца своеасаблівая яму лексіка: стылістычна нейтральная, кніжная і вусна-размоўная.

**Стылістычна нейтральная лексіка** выкарыстоўваецца ва ўсіх стылях. Яна не мае ніякай стылістычнай афарбоўкі. Абазначае асоб, прадметы, якасці, дзеянні, прыродныя з'явы. Да яе адносяцца лічэбнікі, прыназоўнікі, злучнікі, часціцы. Гэтая лексіка вядомая ўсім носьбітам мовы. Складае яна большую частку лексікі беларускай мовы і з'яўляецца лексічнай асновай усіх стыляў.

**Кніжная лексіка** выкарыстоўваецца пераважна ў пісьмовай мове. У ёй адрозніваюцца наступныя функцыянальна-стылістычныя пласты: тэрміналагічная, публіцыстычная, афіцыйна-дзелавая і паэтычная лексіка.

Да **тэрміналагічнай лексікі** адносяцца словы са сфераў:

— грамадска-палітычнай дзейнасці і грамадскіх навук (гісторыі, філасофіі, эканоміі): *актыў, выбары, дэпутат, адраджэнне, рэфармацыя, абстракцыя, эмпірызм, даход, сродкі абарачэння*;

— грамадска-культурнай дзейнасці (музыкі, мастацтва, архітэктуры): *акорд, арыя, дэкарацыя, сцэнарый, жывапіс, нацюрморт, пейзажыст, арка, барока, готыка*;

— розных галін навук (геаграфіі, хіміі, фізікі, матэматыкі, мовазнаўства і інш.): *аазіс, мерыдыян, гідраліз, анод, ом, вектар, інфінітыў, суфікс*;

— тэхнікі: *высакавольтны генератар, камера згарання, гідрометр, дэтэктар, радыёзонд.*

Грамадска-палітычная і культурная тэрміналогія вядомая шырокім кругам беларускага народу. Яна пранікае ў вусную мову і становіцца агульнавядомай лексікай, у выніку чаго няма паміж ёю і нейтральнай лексікай выразнага размежавання.

Навуковая і тэхнічная тэрміналогія выкарыстоўваецца пераважна тымі, хто працуе ў адпаведнай галіне навукі ці вытворчасці. Ёй характэрныя вузка абмежаваныя сферы выкарыстання. Яна менш вядомая іншым носьбітам мовы.

Да **публіцыстычнай лексікі** найчасцей адносяцца:

— так званыя газетызмы — словы і спалучэнні слоў, якія часта выкарыстоўваюцца на старонках газет і часопісаў і ўспрымаюцца носьбітамі мовы як спецыфічныя для газетнай мовы: *аглядальнік, допіс, інтэрв'ю, каментар(ый), перадавікі вытворчасці*,

— словы і словазлучэнні, якія ўжываюцца не ў прамым, а ў пераносным значэнні і ў выніку частага выкарыстання на старонках газет успрымаюцца як словы публіцыстычнага стылю: *мікраклімат калектыву*;

— асобныя словы са сферы грамадска-палітычнай, якія ўспрымаюцца як публіцыстычныя з прычыны частага выкарыстання іх у газетах і журналах: *генацыд, роўнасць, свабода, незалежнасць.*

Да **афіцыйна-дзелавой лексікі** адносяцца словы, тыповыя для дзелавых папераў і афіцыйных дакументаў, якім характэрная вялікая колькасць стандартных моўных адзінак, афіцыйнасць, сухасць выказвання і адсутнасць слоў з эмацыянальна-экспрэсіўнымі адценнямі значэння. Гэта:

— назвы асоб па іх ролі ў афіцыйна-дзелавых адносінах паміж людзьмі: *ісцец, сведка, спажывец*;

— назвы дзелавых папераў і афіцыйных дакументаў: *акт, заява, інструкцыя, пашпарт, пратакол, рэзалюцыя*;

— так званыя канцылярызмы — словы і спалучэнні слоў, традыцыйныя для дзелавых папераў, якія механічна паўтараюцца як своеасаблівыя моўныя штампы: *вышэйадзначаны, ніжэйпадпісаны, парадак дня.*

**Паэтычнай лексіцы** ўласціва стылістычнае адценне ўрачыстасці, узнёсласці або мяккасці і лірычнасці: *арала, веснавей, зараніца, ліра, муза, ясназоры.* Выкарыстоўваецца яна пераважна ў паэтычных творах.

У мове мастацкай літаратуры сустракаецца таксама народна-паэтычная лексіка, якая, як правіла, ужываецца ў вусна-паэтычнай творчасці: *галованька, дзеванька, заранначка, крынічанька.*

---

1 на падставе: В.П. Красней, У.М. Лазоўскі, Г.М. Шчарбакова, Сучасная беларуская мова. Лексіка. Фразеалогія, Мінск 1984, с. 69-74.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Мілае Сэрцайка! Думаеш, заўсёды я была такая старая, як цяпер?! Шэсцьдзесят два гады стукнула, а здароўе — руіна. Ледзь хаджу: то ногі, то хрыбет адмаўляе. Нядаўна са мной здарыўся выпадак.У блёку не было вады. Я пайшла па ваду да калонкі. Набрала цэлы бачок, у якім варыла бялізну,і несла яго перад сабой. Як узыйшла на трэці паверх, дык толькі адчула, як нешта ў маіх касцях хруснула. І павалілася я на падлогу, а бачок — на мяне. Хрыбет быў паламаны, я доўга ляжала ў гіпсе, цяпер во ўжо трэці год лячуся.

Даецца мне ў знакі самотнасць. А была ж я калісь маладая і харошая. Ад мужчын адбою не было. Нават і тады, калі муж мой кінуў мяне з малой дачушкай на руках. Знайшоў маладзейшую, лепшую. Мне не дапамагаў. А сёння дык успомніў, што дачку мае. На свята — заўсёды да яс. Дзядок! Яму ж ужо пад восемдзесят.

Працавала я буфетчыцай усё жыццё. Матэрыяльна не было кепска. Па заграніцах шмат ездзіла, гандлявала крыху. Як дачка замуж выходзіла, паўкілаграма золата ёй дала. Кватэру з чатырох пакояў ёй купіла. Самаходам замежным цяпер ездзяць. Фірму сваю заснавалі.

А я сяджу ў адным пакойчыку сваёй кватэры і мне хапае. Успамінаю былыя гады. Пазвоніць, бывала, элегантны пан. Ці можна прыйсці? Ну, пэўна! Прыйдзе такі з кветкамі, з шампанскім. І пайшоў. Навошта мне быў патрэбны муж?! Каб лётаць за ім і шукаць у чужых ложках?..

А дзіця? Дзіця заўсёды нехта прыпільнаваў. Суседзяў добрых я мела. За грошы людзі ўсё зробяць! Што ж бы я адна магла зрабіць: і праца, і паездкі, і мужчыны. А на сваякоў разлічваць я не магла.

Цешуся, што дачцэ маёй жывецца добра. Маю і ўнука. А ўсё ж самотная. Жыву з пенсіі па хваробе. Але вырашыла дарабляць крыху. Бяру тавар у гуртоўні, вязу яго ў магазіны. Пяць тысяч ад штукі плоцяць. Так яшчэ два мільёны наскрабу. Але каб, барані Божа, дачка не даведалася. Выцягне ўсё! А за пенсію сёння ці ж пражывеш?!

Не скажу, на святы і мяне дачка запрашае да сябе ў госці. Але на штодзень нікога нічога не цікавіць. Каб не суседзі, дык, пэўна, канец бы на мяне тады прыйшоў у калідоры, калі паламала я хрыбет.

Сэрцайка! Рэдка калі стары і недалужны чалавек камусьці патрэбны, праўда?

**Марта**

Марта! Кажуць, што як пасцелеш, так і выспішся. Ты дачкой, як відаць, занадта не пераймалася. Думала, пэўна, што грашыма можна ўсё залагодзіць. А што з таго золата? Найлепшае золата — сэрца маці. А яго, як бачу, гэтаму дзіцяці якраз недаставала. Дзіця пад апекай суседзяў, бо мама за мяжой, або забаўляецца з нейкім дзядзькам. А мо ёй у той момант хацелася прытуліцца да матчыных грудзей. Няхай бы сабе і былі зацыраваныя панчошкі! Цяпла маці ніхто не ў стане замяніць ніякай ласкай.

Вось і прывыкла твая дачушка глядзець на цябе як на крыніцу даходаў, вялікіх грошай, матэрыяльнага дастатку. Не можа, не патрапіць аддаць табе сапраўднага дачцынага цяпла, бо не атрымала яго ад цябе.

Хаця... ёсць сем'і, дзе здараецца, што за надта вялікае цяпло дзеці адплачваюць бацькам сякерай.

Усё павінна быць у меру — ласка і кара, даванне і вымаганне. Нараджэнне дзіцяці — гэта першы, найлягчэйшы этап мацярынства, хаця паводле бабскага стэрэатыпнага мыслення — зусім наадварот.

**СЭРЦАЙКА**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас: Bank Spółdzielczy w Hajnówce, nr konta 905217-1922-2710, а ў замежнай валюце: Narodowy Bank Polski, I Oddział w Białymstoku, nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787.

Жыхары Беларусі грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Менска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 3982. Анна Іванюк /Гданьск/ | 120.000 зл. |
| 3983. Аляксандр Іванюк /Гайнаўка/ | 20.000 зл. |
| 3984. Валянціна Грыка /Старое Ляўкова/ | 20.000 зл. |
| 3985. Фёдар Галёнка /Варшава/ | 20.000 зл. |
| 3986. Ян Чыквін /Беласток/ | 20.000 зл. |
| 3987. Мікалай Нікалаюк /Гайнаўка/ | 10.000 зл. |
| 3988. Уладзімір Куршаль /Беласток/ | 20.000 зл. |
| 3989. Канстанцін Масальскі /Беласток/ | 20.000 зл. |
| 3990. Валянціна Ласкевіч /Беласток/ | 100.000 зл. |
| 3991. Аляксандр Баршчэўскі /Варшава/ | 100.000 зл. |
| 3992. Ян Сычэўскі /Беласток/ | 100.000 зл. |
| 3993. Уладзмір Юзвюк /Беласток/ | 50.000 зл. |
| 3994. Мікалай Ігнацюк /Рыбалы/ | 20.000 зл. |
| 3995. Ян Добаш /Бельск-Падляшскі/ | 20.000 зл. |
| 3996. Сяргей Лукашук /Бельск-Падляшскі/ | 20.000 зл. |
| 3997. Васіль Ляшчынскі /Бельск-Падляшскі/ | 20.000 зл. |
| 3998. Аляксей Карпюк /Бельск-Падляшскі/ | 20.000 зл. |
| 3999. Тамара Русачык /Бельск-Падляшскі/ | 20.000 зл. |
| 4000. Анна Бжазоўская /Бельск-Падляшскі/ | 20.000 зл. |
| 4001. Павел Лемеш /Бельск-Падляшскі/ | 20.000 зл. |
| 4002. Антон Мірановіч /Беласток/ | 15.000 зл. |

Дзякуем.

Наш адрас:
Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej w Hajnówce, ul. 3 Maja 42, tel. 30-16.




Хачу крыху напісаць аб „Ніве". Калі хочаце ўтрымацца на рынку, мусіце стаць цікавейшай газетай.

Трэба пісаць пра эканамічную сітуацыю ў Беларусі, яе прамысловасць, сельскую гаспадарку, натуральнае багацце, а таксама пра жыццё яе жыхароў.

Пісаць больш вестак з вёсак, з тых гмін, дзе пражываюць беларусы. Давадзіць да ведама, як выглядае эканамічная сітуацыя ў гмінах. Змяшчаць размовы з цікавымі людзьмі, добрымі гаспадарамі, беларускімі бізнесменамі, войтамі, дзеячамі.

Не баяцца перадрукоўваць цікавыя артыкулы з іншых газет.

Павінны пісаць вы таксама пра здароўе, харчаванне, рацыянальнае жыццё, даваць розныя парады па падрыхтоўцы ежы і вядзенні гаспадаркі. На першае месца я б паставіў справы, неабходныя ў штодзённым жыцці чалавека.

Жадаю ўсяму рэдакцыйнаму калектыву поспехаў, шчасця, здароўя і задавальнення з жыцця.

**П.Д.**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*УЖО ВАКАЦЫІ*

*Фота В. Жушмы*

### ЧАРАДЗЕЙНАЕ ДРЭВА ЖАДАННЯЎ

У глыбіні сада расло дрэва. Яго грэла сонца, вецер пяшчотна кранаў галіны, і лісце шамацела:

- Жадай, жадай, жадай.

Гэта было чарадзейнае дрэва. І калі вы стаялі пад ім і жадалі, дык усе жаданні выконваліся.

У доміку побач з дрэвам жыў тоўсты стары. Яго звалі Уільям Кэдоўгэн Смайт. Ён гандляваў у вёсцы мылам і не любіў хлопчыкаў і дзяўчынак. Аднойчы ён стаў пад дрэва і сказаў:

- Я хачу, каб усе хлопчыкі і дзяўчынкі, што жывуць у нашай вёсцы, апынуліся на Месяцы!

Так і здарылася.

На Месяцы было холадна і самотна, і некаторыя дзеці пачалі плакаць. Але маці не маглі пачуць іх, бо былі надта далёка.

Як толькі дзеці зніклі, усе птушкі на дрэве змоўклі. А адзін шпак паглядзеў на містэра Смайта і сказаў:

- Я хачу, каб усе дзеці вярнуліся. Вось так!

А містэр Кэдоўгэн Смайт сказаў:

- Я хачу, каб яны ўсе былі на Месяцы!

- Я хачу, каб яны ўсе вярнуліся, - не здаваўся шпак.

Дзеці зусім разгубіліся: яны не маглі зразумець, дзе яны.

Містэр Смайт тупнуў нагой і сказаў:

- Я хачу...

Але болей ён нічога не паспеў сказаць, бо шпак вельмі хутка крыкнуў:

- Я хачу, каб містэр Смайт зрабіўся добрым!

І містэр Смайт, які толькі што збіраўся сказаць: «Я хачу, каб усе дзеці былі на Месяцы», раптам пера-

працяг на стар. 10

**ДЗМІТРО БЕЛАВУС**

**Дзівосны Кошык**

На прылеску, пры сцяжынцы,
Ледзьве вокам я схапіў:
У развілку на галінцы
Хтосьці кошык пачапіў.

Ці яго прыкмеціў знізу,
Ці здалося гэта мне
- Між галін густога хмызу
Кошык-цацка, як у сне.

Шусь! Прысеў пявун жаўтлявы
З чорным пер'ем па баках.
Я схіліўся ціха ў травы,
Каб разгледзець, што за птах.

Шустры птах наловіць мошак,
Між лісточкаў - скок ды скок,
І нясе іх проста ў кошык
- Таямнічы церамок.

- Ой, спажыва - іва-гіва!
Ешце!.. - песенька чутна.
Гэта што за птах крыклівы?
Гэта ж івалга - яна!

Недалёка ад крыніцы
Мае дом - на цэлы гай.
Добры кошык!
Хоць суніцы
У яго збірай!

**ЛЕАНІД ПРАНЧАК**

**Лясная пякарня**

Сіта
Сплёў павук
Жуку
- Сеяць белую муку.
Жук прасеяў,
Соку ўліў,
Цеста ў дзежцы
Замясіў.
І напёк
На цэлы бор
Пірагоў -
Як на падбор.
Частаваў
Звяроў і птушак,
Камароў
І розных мушак.
Не забыў
І павука
- Выпек торт
Для сябрука.

## КАЗКА ПРА ЛЯЛЬКУ

Бігі жыла ў Берліне, у вялікім дзіцячым магазіне, сярод іншых лялек, капронавых хлопчыкаў, матацыклістаў і смешных чырвонашчокіх клоўнаў. А ў Берліне, каб вы ведалі, усе размаўляюць па-нямецку. Днём цацкі моўчкі стаяць на высокіх паліцах. А вечарам, калі магазін зачыняецца, пачынаюць расказваць адна адной, аб чым паспелі даведацца за дзень.

Вось што адбылося аднойчы, калі магазін апусцеў, а яго вітрыны закрылі фіранкамі.

- Ведаеш, Бігі, - сказала цёмнавалосая Кэт, суседка Бігі па паліцы, - я гэтак расхвалявалася сёння! Падыходзіць да мяне дзяўчынка, палец у роце - фу, вельмі брыдка, - і пачынае мяне разглядаць. А мама яе пытаецца: «Табе падабаецца гэта лялька?» Я так перапалохалася! Гэта ж вялікае няшчасце для нас, цацак, жыць у неахайных ці капрызных дзяцей. Яны і за валасы цябе натузаюць, і ў гразі выпацкаюць, а то і кінуць дзе-небудзь на вуліцы. Але дзяўчынка ўбачыла, што хлопчыку купляюць завадны аўтамабіль, і таксама захацела гэткі...

- А мне ўсё роўна, да каго я траплю, - прапішчаў гномік. Ён быў такі маленькі, што ўскараскаўся на галаву жырафе, а яна нават не варухнулася.

- Галоўнае, каб гэта быў чалавек вясёлы... Бігі, - сказаў ён так ціха, што пачула адна толькі Бігі, - цябе заўтра купяць...

- Адкуль ты ведаеш? - толькі і спытала яна, заміраючы ад хвалявання.

- Я чуў, як размаўляў з прадаўцом адзін дзядзька. Ён заўтра едзе ў іншы горад, нават у краіну іншую, і хоча купіць маленькай дачцэ падарунак. Сказаў, што заўтра заедзе і возьме цябе, Бігі.

Бігі не ведала, радавацца ёй ці бедаваць. У магазіне было добра сярод цацак, але ўсё ж сумнавата, бо асноўны занятак лялек - гуляць з дзецьмі. І рана ці позна кожная пакідала магазін.

- А ты ведаеш, што ў іншай краіне ўсе размаўляюць на іншай мове? - спытаў гномік.

Бігі гэтага не ведала і цэлую ноч думала пра сваё будучае жыццё, пра сваю будучую гаспадыню. Як жа Бігі зразумее яе, калі яны будуць размаўляць на розных мовах?

А назаўтра ляльку Бігі паклалі ў вялізную каробку і панеслі з магазіна. Бігі заплюшчыла вочы і толькі прыслухоўвалася да таго, што адбывалася за тонкімі сценкамі каробкі. Потым нешта моцна-моцна загуло, так, што ў Бігі заклала вушы. Яна не ведала, што ляціць у самалёце, і вельмі спалохалася.

Але вось падарожжа скончылася. Бігі ўнеслі ў дом, дасталі з каробкі і паставілі на крэсла каля ложка.

На ложку Бігі ўбачыла дзяўчынку, якая спала. Тая адразу спадабалася ляльцы - такая яна была чысценькая, светлавалосая, як сама Бігі. Толькі як жа з ёй размаўляць? А дзяўчынка якраз паварушылася і расплюшчыла вочы. Яны шырока-шырока раскрыліся ад здзіўлення і радасці, калі ўбачылі ляльку.

Дзяўчынка імгненна саскочыла з ложка і пабегла ў другі пакой. Там з ёю загаварыў мужчына, які прывёз Бігі. А пра што яны гаварылі, лялька не магла зразумець і засмуцілася. Але вось дзяўчынка вярнулася ў свой пакой і толькі ўсміхалася пяшчотна і радасна.

Бігі здагадалася, што спадабалася сваёй маленькай гаспадыньцы, і, пазіраючы ёй у вочы, пачала паўтараць у думках: «Майн намэ іст Бігі. Майн намэ іст Бігі». Па-нямецку гэта азначала: маё імя - Бігі. Дзяўчынка раптам сарвалася з месца, падхапіла ляльку на рукі, моцна прыціснула да сябе і закрычала:

- Яе завуць Бігі! Тата, яе завуць Бігі!

І лялька таксама зразумела дзяўчынку, хаця словы гучалі зусім інакш.

- Правільна, Леначка, - сказаў бацька, уваходзячы ў пакой.

Бігі зноў усё зразумела і, акрамя таго, даведалася, што яе гаспадыню клічуць Леначкай. Імя было незвычайнае, але гучала мякка, пявуча і спадабалася Бігі.

- Правільна, дачушка, - сказаў далей бацька. - Яе завуць Бігі. Так мне сказалі ў магазіне. Але ты адкуль ведаеш гэта?

- Яна сама сказала. Лялька мне вельмі-вельмі спадабалася, і мне здалося, што яна сказала сваё імя.

Бацька паглядзеў на ляльку, на сваю шчаслівую дачку і пра ўсё здагадаўся. Ён быў падарожнік, шмат ездзіў па розных краінах, ведаў розныя мовы. Але яшчэ ён ведаў галоўнае: самая зразумелая з усіх моў на зямлі - мова дружбы. І ўсе, хто жадае людзям дабра, хто хоча дружыць, абавязкова зразумеюць адзін аднаго, на якой бы мове яны ні гаварылі.

**ЯЎГЕН РАДКЕВІЧ**



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



*Вельмі спадабаліся гледачам у Нарве Коля Тоўсцік і Каця Прышчэпа.*

*Фота Міры Лукшы.*

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Вечарам і раніцай туман сцелецца нізка па вадзе і па зямлі - дзень будзе сонечны, ясны.

Сонца сярод дажджу - неўзабаве дождж перастане.

Вялікі гром - маленькі дождж.

Лес шуміць без ветру - перад дажджом.

Сарока пад страху лезе - перад ветрам, навальніцай.



## ЧАРАДЗЕЙНАЕ ДРЭВА ЖАДАННЯЎ

*працяг са стар. 9*

думаў. Ён пачухаў патыліцу і сказаў:
- Я хачу, каб усе дзеці прыйшлі сёння на гарбату. Да гарбаты ў нас будзе печыва, апельсінавае жэле і ліманад. А я не буду болей гандляваць мылам, а адчыню кандытарскую. І не завіце мяне болей Уільям Кэдоўгэн Смайт, а проста Біл Сміт. Ура! Ура! Ура!

Ён тройчы перакульнуўся цераз галаву, і на дрэве зноў заспявалі птушкі. Сонца грэла дрэва, вецер пяшчотна кранаў галіны, а лісце шамацела:

- Жадай, жадай, жадай!

ДОНАЛЬД БІСЕТ

З англійскай пераклаў

АЛЕСЬ КУДРАЎЦОЎ




### КУПІ ВЫХАДНЫ ДЗЕНЬ

У выхадныя дні да нас заўсёды прыходзіць бабуля Зося. То адной, то другой унучцы штось прыносіць. Пасядзіць, пагамоніць і дамоў пойдзе.

Аднойчы, калі бабуля прынесла новую кніжку старэйшай унучцы Алене, маленькая Даша затрымала яе перад самым адыходам:

- Чаму ты, бабулька, усё Марыне ды Алене купляеш, а мне дык нічога?

- Ну а што б ты хацела, Дашанька?

- Я? Купі мне яшчэ адзін выхадны дзень!

### ЯК ЦЯБЕ СУСТРЭЛІ?

Пасля хваробы Даша пайшла ў дзіцячы сад. Вечарам вяртаецца, і ўсе пытаюць у яе:

- Ну, як цябе сустрэлі дзеці?

- Абкружылі і ў ладкі пляскалі.

- А загадчыца як сустрэла?
- пацікавіўся дзед.

- Як убачыла мяне, дык адразу: «А даведку ад урача прынесла?»

ПАВЕЛ КАВАЛЁЎ

## ПРЫГОДЫ МЫШКІ ПІК - ПІК

### МЫШКА ПІК-ПІК ІДЗЕ НА ВЕРАНЧЧЫН ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ

Аднойчы мышка Пік-Пік прачнулася ад таго, што якраз перад яе норкай гучна размаўлялі тата, мама і Пепіта. Але тэма размовы так зацікавіла мышку, што рашыла не абурацца на гоман, а падслухаць. Аказваецца, заўтра ў Веранічкі - дзень нараджэння, і ўсе абмяркоўвалі, што ёй даць у падарунку.

- Я нарву прыгожы букет кветак, - сказала Пепіта.

- А я ўжо купіла Веранічцы сукенку,



- паведаміла мама.

- Ну а я пайду і куплю ляльку, - вырашыў тата.

Пепіта заўважыла, што Пік-Пік высунула з норкі нос, і запыталася:

- Ну а ты, Пік-Пік, што падорыш Веранічцы на дзень нараджэння?

- А што гэта за дзень нараджэння такі? - прабурчэла мышка.

- Гэта значыць, - растлумачыла Пепіта, - што прыдзе шмат гасцей павіншаваць Веранічку.

- А я спяку смачныя торцікі і пірожныя, - дадала мама.

- Гэта мне падабаецца! - падскочыла ад радасці мышка. - Калі прыходзіць на торцік?

- Не, пачакай, - строга сказаў тата. - Без падарунка на дзень нараджэння ісці нельга.

- Ну добра, - згадзілася мышка. - Знайду падарунак.

Заўтра раніцай мышка прачнулася і пачала рыхтавацца.
Доўга перабірала Пік-Пік свае скарбы, але тое, што можна было выкарыстаць у якасці падарунка, не хацела аддаваць. А тое, што мышка ахвяравала б, выглядала зусім непрывабна.
- Пашукаю што-небудзь на вуліцы,
- уздыхнула мышка і рушыла на пошукі.

Першае, што трапілася Пік-Пік ля пад'езда, была кансервавая пустая бляшанка. Мышка пакруціла яе так і гэтак і з уздыхам адкінула: Веранічка гэтага не ацэніць... Пашыбавала далей, знайшла паламаную пластмасавую прышчэпку для бялізны, падняла, пакруціла перад вачыма, панюхала... Нешта не тое.

І тут мышка Пік-Пік заўважыла, што на зямлі ляжыць прыгожы скураны пасачак з блішчынкамі. Не доўга думаючы, мышка цапнула яго і пабегла на дзень нараджэння. Але Пік-Пік не ўгледзела, што другі канец пасачка быў замацаваны на ашыйніку маленькага кудлатага шчанючка. Спярша шчанючок паслухмяна пабег туды, куды яго цягнулі. Але неўзабаве ён разгледзеў, што ягоны павадок трымае не гаспадар, а маленькая тоўстая мыш! Нейкі час бедны сабачка моўчкі бег і разважаў над гэтай акалічнасцю. А пасля вырашыў, што гэта - проста ганьба для сумленнага сабакі. І мышка Пік-Пік пачула над сваім вухам залівісты брэх. Яна азірнулася і ўбачыла сабачую пысу.

- Адабраць пасак хоча! - здагадалася мышка і ірванула ў пад'езд, не выпускаючы каштоўнай знаходкі.

За сталом сядзелі Веранiччыны госці і ласаваліся рознымі прысмакамі. І тут у пакой уляцелі мышка, а за ёй - шчанючок. Яны бегалі вакол стала і пад сталом, чулася толькі: «Пік-пік!» ды «Гаў-гаў-гаў!» Нехта з гасцей паваліўся разам з крэслам, нехта ўпусціў кубак - вэрхал узяўся што трэба.

- Ці-ха! - крыкнуў тата так гучна, што шчанючок падціснуў хвосцік і лёг на падлогу.

- Што ты нарабіла, Пік-Пік? - строга запытаўся тата. - Што ўсё гэта значыць?

- Як гэта - што? - аддыхалася мышка. - Я падарунак прынесла.

- Які?!

- А вось ён! - і мышка паказала лапкай на шчанючка. - Вялікі, порсткі, зубаты! Не дагодзіш вам...

Тут дзеці зноў завішчэлі, і грамчэй за ўсіх - Веранічка - ад радасці, і кінуліся гуляць са шчанючком. Мышка скарысталася момантам і скочыла на стол.

Калі госці нарэшце вярнуліся на свае месцы, на тортаўніцы, дзе толькі што ляжаў вялікі прыгожы торт, спала вялікім круглым жыватом уверх мышка Пік-Пік. Хвосцік яе звесіўся ў лужыну ліманаду, зубкі яшчэ нешта перажоўвалі, а ў лапцы быў заціснуты салёны агурок.

Вось так Веранічка адсвяткавала свой дзень нараджэння.

Шкада толькі, што шчанючка давялося аддаць гаспадару.

ЛЮДМІЛА РУБЛЕЎСКАЯ



*МЫШКА ПІК - ПІК*



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

УЛАДЗІМІР АРЛОЎ

# ХТО ВЫКРАЎ КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ?

*(Пачатак у папярэднім нумары)*

Тым самым днём датаваны і акт аб перадачы крыжа Еўфрасінні ў рукі Лугаўцова. У гэты час В. Ластоўскі ўжо не працаваў дырэктарам, аднак нацыянальную рэліквію ён перадаваў „чэкісту" яшчэ са сваім подпісам, бо, відаць, быў за яе асабіста адказны. Зрэшты, дамо слова самому дакументу, захаваўшы яго арфаграфію і пунктуацыю.

АКТ

1929 г. 21-га лістапада складзены гэты акт аб перадачы Беларускім Дзяржаўным Музэям у Менску Беларускаму Музэю ў Магілеве крыжа Эфросініі Полацкай.

1) Футляр медны пасярэбраны, пазалочаны з пабітым шклом, у сярэдзіне крыжу футляр падобны.

б) на футляры ёсць славянскія надпісы.

2) Крыж зроблены з дубовага* дрэва і абложаны золатам і славянскімі буквамі.

3) Пад верхняй папярэчкай крыжа не дастае 2-х кавалкаў золата і дрэва.

4) На верхняй папярэчцы крыж, які быў вылажаны каменьнямі, каменьняў няма.

5) Унізе крыжа зроблена надстаўка.

6) На верхнім канцы крыжа ёсьць уноў-даробленая выабражэньне багародзіцы (жоўтага мэталю).

7) Правае крыло верхняга боку крыжа заложана такой самай устаўкай новага мэталю.

8) З ліцавога боку крыжа кругом абведзены шнурком на нітцы жэмчуга.

9) З ліцавога боку выламана тры з эмалі прэабражэньня сьвятых.

10) 10-ць выабражэньняў сьвятых папсаваны.

11) У верхняй папярэчцы ў пазах 4-хкантовага крыжу 4 гнязды, у якіх няма каменьняў.

12) У ніжняй папярэчцы ў пазах 4-хкантовага крыжу 4 гнязды, у якіх няма каменьняў.

13) З ліцевога боку 8 гнёзд запоўненых каменямі, з якіх 3 на дзержаньні авальнай формы, 2 сініх і 1 цёмна-чырвон.

14) На правым баку ніжняй папярэчцы круглы амэціст прыбіты 2-мя цьвікамі і на левым баку ніжняй папярэчцы белы камень.

15) Паміж верхняй і ніжняй папярэчкай белы камень авальнай формы.

16) На верхняй папярэчцы 2 камені белага шкла.

17) На адвароце крыж гладкі пакрыты эмалью з выабражэньнем 3-х сьвятых папсаван. З трох гнёзд рэлiквіі адно пустое.

18) З верхняга боку крыжа паложана рубчатая акоўка, у якой трымаецца жамчуг, часьці яе з правага боку пад палукруглым пазухам абломана. ( Апісаньне зроблена паводле акту, складзенаму ў Полацку пры перадачы крыжа Ластоўскаму і акту прыёмачнаму складзенаму ў Менску).

Далей падаецца апісаньне паводле акту камісіі з удзелам ювэліра-эксперта:

1. На рукаятцы І ніжні блакітны авальны камень — ёсьць афарбаванае шкло.

2. Другі знізу на рукаятцы цёмна-чырвонага колеру, авальны камень — ёсьць гранат, каштоўнасьць якога прыблізна 3—5 рублёў.

3.Трэйці на рукаятцы авальны блакітны камень — ёсьць афарбаванае шкло.

ІІ. На ніжняй папярэчцы злева авальны белы камень сэрдалікавага пераліву — ёсьць афарбаванае шкло; з правага боку гэтай папярэчцы гранёны круглы камень — ёсьць амэтыст пастаўлены значна пазьней, каштоўнасьць яго каля 1-го рубля.

ІІІ. Паміж ніжняй і верхняй папярэчкай авальна-гладкі камень сэрдалікавага пераліву — ёсьць афарбаванае шкло.

IV. На верхняй папярэчцы 2 круглыя, плоскія, гладкія камяні луннага колёру — шкло.

Усяго на крыжу 8 каменьняў, з якіх 6 — шкло, 1 амэтыст і 1 гранат.

V. Шнурок жэмчугу, якім абведзены весь крыж,важыць 32 і 5 грама разам з ніткай. Жэмчуг увесь праўдзівы, родадскі (?—У.А.) перамяшаны з так званым яўрэйскім, прыблізная каштоўнасць іх усіх=каля 200 рубл.

(Далейшы тэкст акта дапісаны чарнілам, рукою Вацлава Ластоўскага).

Крыж гэты запісаны ў кнігу экспанатаў Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў Менску пад н-р 7591.

Крыж здадзены, згодна распараджэньню Наркомасьветы, былым дырэктарам БДМ тав. Ластоўскім В.Ю. прадстаўніку Фэльдаддзела ПП ОГПУ по БВО тав. Лугаўцову, згодна даверанасьці Фэльдаддзела ПП ад 21 ХІ.29 г. за н-р 68813 для дастаўкі ў Магілеўскі Дзяржаўны Музей і перадачы яго асабіста дырэктару Музэю тав. Вінікаву У.Л.

Перадача адбылася ў прысутнасьці: дырэктара БДМ у Менску тав. М.І. Шапавалава, дырэктара БДМ у Магілеве тав. Вінікава, нам. дыр. БДМ у Менску тав. А.В. Бурдзейкі.

Здаў В. Ластоўскі (подпіс).

Для перадачы дырэктару Магілеўскага Музэю т. Вінікаву прыняў Лугаўцоў (подпіс).

Присутнічалі: М. Шапавалаў (подпіс).

В. Виников (подпіс).

А. Бурдзейка (подпіс).

(Далейшая дапіска зроблена 22 лістапада 1929 г. ужо ў Магілёве.) Вызначаны ў гэтым акце крыж у стане згодна акту 1929 году, лістапада 22 дня а дзевятай гадзіне ў вечары на месцы атрымаў ад т. Лугаўцова, прыставіўшага гэты крыж па даручэньню БДМ у Магілеўскі Дзярж. Музэй.

Дырэктар Магілеўскага Дзярж. Музэю — В. Виников (подпіс).

Крыж здаў Лугаўцоў (подпіс).

Присутнічалі: Навуковы супрац. Магілеўскага Дзярж. Музэю
(подпіс нечытэльны)
(другі подпіс нечытэльны)

Круглая пячатка з надпісам усярэдзіне: „Археографический Научный Музей".

Надпіс навокал: „Пролетарии всех стран соединяйтесь!"

Дакументы сведчаць, што ў той самы дзень В. Ластоўскі здаў Лугаўцову за сваім подпісам і перапісанае ў 1582 годзе слуцкім князем Юрыем Алелькавічам Евангелле, якое паходзіла з бібліятэкі Свята-Траецкага манастыра ў Слуцку. Дзе гэтая унікальная кніга сёння — таксама загадка.

*(працяг будзе)*

* Верагодней — з кіпарысавага.

## ЦУКАР

Аднойчы я зайшла ў нашу вясковую краму, якая з'яўляецца уласнасцю аднаго з жыхароў непадалёкіх Бандароў, і якраз прадаўшчыца запісвала ахвотных купіць вялікую колькасць цукру, прынамсі з 50 кілаграмаў, па амаль оптавых цэнах — 5500 злотых за кілаграм. Запісалася і я. Прайшоў тыдзень, і я пайшла даведацца, што з гэтым цукрам.

— Яшчэ не прывезлі, — сказала прадаўшчыца, — запісалася толькі восем чалавек. Калі больш запішацца, дык напэўна уласнік крамы прывязе.

Уласнік, відаць, не чакаў большай колькасці кліентаў, бо ўжо ў той самы дзень, адвячоркам, каля маёй хаты самаход затрымаўся. З машыны выйшаў уласнік крамы з мяшком цукру.

Я яму сардэчна падзякавала за добры ўчынак, а ён засмяяўся і сказаў: „Няма за што". Вось як прыватны крамнік дбае пра сваіх кліентаў.

АЎРОРА

## ДОГЛЯД ЗА ХАТНІМІ РАСЛІНАМІ

Большасць хатніх раслін любіць халадневатую тэмпературу і не церпіць яркага святла.

Палiваць кветкі трэба вадой хатняй тэмпературы, зімой - на 2 - 3 градусы цяплейшай. Перад тым, як палiваць расліны, дайце вадзе адстояцца, каб вытхнуўся хлор.

Кактусы патрабуюць мінімуму вільгаці, асабліва восенню і зімой. Зімой палівайце іх чым радзей - да аднаго разу ў месяц, але сачыце, каб зямля не перасыхала.

Хатнія расліны падкормліваюць толькі ў перыяд росту /сакавік - жнівень/. Зімой расліны падкормліваць не трэба, палівайце іх у гэтую пару года раніцай, а летам - у вячэрні час.

У сакавіку пажадана закончыць перасадку большасці хатніх раслін. Пры перасадцы выдаліце вострым нажом захварэўшыя і загніўшыя карані.

Такія кветкі, як герань, фуксія, можна перасаджваць і ў жніўні, а тыя, што цвітуць вясной, пасля цвіцення. У раслін з вельмі галінастымі каранямі канцы каранёў абразаюць вострым нажом. Гэта паскарае рост раслін, выклікае з'яўленне мноства карэньчыкаў. У пальмы, кактуса і іншых раслін, якія маюць негалінастыя карэньчыкі, абразаць іх не варта: раны вельмі марудна зажываюць. Пасля перасадкі расліны добра паліце крыху падагрэтай вадой.

Кактусы пасля перасадкі прыблізна тыдзень не палівайце, каб пашкоджаныя карані не загнулі.

Шкоднікі на раслінах не з'яўляюцца зусім або загінуць адразу пасля з'яўлення, калі абмыць лісце спачатку мыльнай, а затым чыстай вадой. Не дапускайце пападання мыльнай вады на зямлю, бо яно шкодзіць караням.

Добрым сродкам супраць шкоднікаў хатніх раслін з'яўляецца звычайны попел. Ім абсыпаюць усе лісты і парасткі. Яшчэ лепш зрабіць мыльна-попельную суспензію.

Гатуюць яе так: 3 - 4 жмені попелу добра размешваюць у 10 літрах цёплай вады, дадаюць 2 - 3 сталовых лыжкі паральнага парашку або крыху гаспадарчага мыла. Суспензію ўзбоўтваюць. Расліны апырскваюць пры дапамозе пульверызатара.

Пазбавіцца ад шкоднікаў дапамагае таксама настой тытуню або махоркі /адна сталовая лыжка на шклянку вады, дадаць крыху мыла/.

Кветкі не любяць скразнякоў. Калі праветрываеце пакой, накрывайце іх газетамі.




## З РУСКАЙ КУХНІ

### Халаднік

Прадукты:
1 літр хлебнага квасу, паўкілаграма маладых буракоў з бацвіннем, 2 свежыя агуркі, 2 крутыя яйкі, 2 лыжкі смятаны, 80 г зялёнай цыбулькі, 1 пучок кропу, 1 лыжачка цукру, соль.

Буракі памыць і абабраць. Аддзяліць ад іх бацвінне. Буракі заліць 1/2 літра халоднай вады, закіпяціць і тады варыць іх на малым агні паўгадзіны. На 10 мінут перад канцом гатавання дадаць бацвінне.

Звараныя буракі і бацвінне адцадзіць і дробна пасячы. Адвар ахаладзіць да 10 градусаў.

Абабраць яйкі і нарэзаць іх чвэрткамі. Абабраць і дробна нарэзаць агуркі. Дробна пасячы зялёную цыбульку і кроп.

Усе прадукты ўкінуць у даволі вялікую каструльку. Дадаць смятану і цукар. Пасаліць і перамяшаць, пасля чаго развесці хлебным квасам і халодным адварам з буракоў. Дадаць нарэзаныя яйкі.

### Курыныя катлеты

Прадукты: 4 порцыі курыных грудзей, 2 яйкі, 100 г сцертай на тарцы сухой булкі, 30 абабраных і сцертых на тарцы міндалін, 40 г абабраных і дробна пасечаных грэцкіх арэхаў, невялікі пучок зялёнай пятрушкі.

На фарш: 150 г цяляціны, 2 морквіны, 1 пятрушка, кавалак сэлера, 1 пор, 100 г свежага шпінату, 1 жаўток, 2 лыжкі масла, 3—4 лаўровыя лісткі і нскалькі зярнят пахучага перцу, крыху мускатнага арэху (мушкаталовай галкі), соль, перац.

З курыных грудзей зняць скурку, збіць вільготным малатком, прыдаючы ім форму прадаўгаватага лістка.

Гародніну абабраць, памыць і нарэзаць невялікімі кавалкамі. Заліць вадой (каля 1 літра). Дадаць цяляціну, пасаліць, укінуць лаўровыя лісткі і пахучы перац. Закіпяціць, зняць пену і варыць на невялікім агні 1 гадзіну. Шпінат перабраць, спаласнуць, абрэзаць карэньчыкі і зварыць у пасоленым кіпетні (каля 6 мінут). Адцадзіць і выціснуць. Цяляціну і шпінат прапусціць два разы праз мясарубку, пасля чаго перамяшаць старанна з жаўтком і маслам. Фарш пасаліць, дадаць перац і крыху мушкаталовай галкі.

На сярэдзіну кожнага кавалка курыцы палажыць порцыю фаршу, пасля чаго скрунуць яго так у рулет, каб атрымалася форма верацяна.

Катлеты паніраваць у сцертай сухой булцы, яйку і перамешаных з міндалем арэхах. Смажыць на масле з абодвух бакоў, а пасля ўставіць яшчэ на 5 мінут у нагрэтую да 200 градусаў духоўку.

Падаваць з зялёным гарошкам, скрылёчкамі лімона і пасечанай зялёнай пятрушкай.

ГАСПАДЫНЯ



© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

### АНЕКДОТЫ

Нявестка гаварыла:

— Вось і зразумей гэтую свякруху! Як зварыць боршч у вядзёрным чыгуне, дык усё з'ядуць і яшчэ ім мала. А як я звару ў маленькім — палавіна застаецца...

* * *

— Грамадзянін, — кажа лекар, — хуткая дапамога была выклікана да апёку, а ў вас зламаная рука і нага!

— Спачатку быў апёк. Мая жонка вымыла растваральнікам унітаз, а я, нічога аб гэтым не ведаючы, сеў на яго, а потым укінуў недакурак...

— Гэта выбух быў такі моцны, што аж паламала вам канечнасці?

— Не, — енчыць пацыент, — калі прыехала хуткая дапамога і санітары мяне выносілі да машыны, я пачаў расказваць, што здарылася, і яны са смеху ўпусцілі насілкі на сходах.

* * *

Па вуліцы ідзе малады чалавек, у якога пабіты твар, і нясе два цяжкія чамаданы. Па дарозе сустракае знаёмага.

— Хто цябе так пакалаціў? — пытаецца той.

— Цешча.

— Я на тваім месцы парэзаў бы яе на кавалкі.

— А як ты думаеш, што я нясу ў гэтых чамаданах?

* * *

— Улічы, фарбаваць валасы небяспечна.

— Я ведаю. Мой дзядзька пафарбаваў сівыя валасы на чорны колер і праз два тыдні жаніўся на ўдаве, у якой пяцера дзяцей.

* * *

— Фёдар пытае доктара:

— Скажыце, што ў маёй жонкі?

— Нічога страшнага. Неўроз. З ім яна пражыве да ста год.

— А я? — пытае Фёдар.

* * *

Пасля выплаты жонкі ўбачылі сваіх мужоў каля карчмы.

— Фёдар, ты скачы ў карчы, а я прыму агонь на сябе.

— Прападзеш, Парфен, ні за што.

— Дзіўны ты, тваёй Сонькі я не баюся, а мая ведае, што п'ю не за свае.

* * *

— Жонка пасылае мужу, які паехаў у водпуск, тэлеграму: „Не забудзь, што ты жанаты". Праз некалькі дзён яна атрымлівае адказ: „Тэлеграма ўручана са спазненнем".

* * *

Адна маладая дзяўчына садзіцца ўпершыню за руль аўтамашыны разам з інструктарам.

— Мне не трэба паказваць, як рабіць задні ход. Я ніколі ні перад чым не адступаю.

Падборку зрабіў
ЯСЕНЬ







*Малюнак М. Сеўлюка*

### СПОВЕДЗЬ

О, Божа, як жа на душы трывожна,
Калі парог пераступаю ў храм!
Я атэістам слыў, я быў бязбожнік,
Жыў нібыта ў Эдэме тым Адам.

І думкі не было, каб усумніцца,
Я быў перадавы грамадзянін,
Якому Богу — ведаў — памаліцца,
А ён таксама быў тады адзін.

І вось усё разбурана дазвання,
Парушан звыклы ход жыцця майго.
Прыношу я табе сваё прызнанне:
Не ведаю я, што і да чаго.

Дапамажы! Гатоў я легчы ніцма.
Я чалавек, хоць грэшны, а не злой.
Хачу табе, о Божа, памаліцца
І на калені стаць перад табой.

На правільную выведзі дарогу,
У выбары ты мне дапамажы:
Якому мне цяпер маліцца Богу! —
О, Божа літасцівы, падкажы!

**Уладзімір Праўдасуд**

## КОНСКІ ДЭБЮТ

### ГУМАРЭСКА

Восенню прафсаюзны камітэт выдзеліў мне пуцёўку ў санаторый. Пасялілі мяне з адным старым, прыемным і непрыкметным чалавекам. За стол таксама пасадзілі з людзьмі паважанага ўзросту.

Народ гэты спакойны і дысцыплінаваны. На снеданне, абед яны дакладна па распарадку прыходзяць, можна гадзіннікі звяраць.

Прыглядзеўся я да сваіх суседзяў і заўважыў, што чымсьці яны заклапочаны.

- Забываюць нас, старых, - кажуць. - У масоўках абходзяць, на танцах жанчыны не заўважаюць.

- Нічога, - адказваю, - дапамагу вам.

... Сабраў я старых надвячоркам і кажу:

- Дзяды, трасянём старынай!

- Ды дзе ж ужо нам трэсці...

Я не здаваўся і прапанаваў ім уключыцца ў шахматны турнір.

Адзін дзед чмыхнуў:

- Я, паважаны, пешку ад гэтага жарабка, ці кабылы, як там, не адрозніваю.

Другі яго дапаўняе:

- Я таксама дапяць не магу, куды, чым хадзіць.

- Во-во, - трасе барадой трэці, - Там аж дзве каралевы стаяць! Я ж гэтых самых жанчын як агню баюся!

Доўга я пераконваў іх, што шахматы - мудрая гульня, даступная кожнаму. Урэшце, я сказаў, што з дапамогай шахмат і шахматнага турніру яны, старыя, атрымаюць усеагульнае прызнанне.

Гэтая акалічнасць пераканала.

Два дні я цярпліва паказваў ім, як ходзяць шахматныя фігуры, тлумачыў, што такое дэбют, камбінацыя, эндшпіль, растлумачыў, што такое якасць і што патрэбна зрабіць, каб кароль праціўніка паднёў рукі ўгару.

На трэці дзень усе пяць маіх старых запісаліся ў шахматны турнір. У турніры за 5 прызоў змагаліся 12 прэтэндэнтаў.

Адзін мой стары так налаўчыўся, што з поспехам разыгрываў дэбют двух канёў і з дапамогай гэтай навізны перамог не аднаго свайго праціўніка.

- А дзе вы, дзядуля, навучыліся так добра гуляць у шахматы? - задаў старому пытанне невысокі малады чалавек.

- Сынок, - адказаў дзед-шахматыст, - дажывеш да маіх гадоў, дык усё зможаш зрабіць. А калі па-сур'ёзнаму - дык я аж 15 гадоў працую конюхам. І гэтых самых канёў і іх звычкі вывучыў.

Так што гэты конскі дэбют для мяне справа прывычная.

Калі падвялі вынікі - дык гэты стары заняў у турніры трэцяе месца і заваяваў прыз - скульптуру коней.

Той стары-баязлівец, што трымаўся заўсёды ўбаку ад жанчын, прайграў у турніры ўсе партыі. Яму дастаўся спецыяльны прыз - набор абаранкаў.

А дзед, які жыў са мной у адным пакоі, быў удастоены прыза за самую кароткую партыю - яго праціўнік зрабіў толькі пяць хадоў, калі прыбегла медыцынская сястра і сказала, што падыйшла чарга яго партнёра па шахматах на падводны масаж.

Вечарам перад кінасеансам культарганізатар уручыў пераможцам турніру заслужаныя ўзнагароды. І мае старыя сталі сапраўднымі санаторнымі кумірамі. Жанчыны і дзяўчаты з імі міла віталіся, мужчыны галантна кланяліся і ўступалі дарогу, афіцыянткі першымі падавалі ім ежу ў сталоўцы, а кінамеханік персанальна запрашаў на новыя фільмы.

А самае галоўнае - мае старыя нават памаладзелі, сталі вясёлымі. Дэбют удаўся.

**АНАТОЛЬ СУНІЦЫН**

## РАЗЕТКА НА «Л»

**Управа:** 1/ цвіце ў маі, 2/ л, 3/ не адзін жыве ў Белавежы, 4/ калі добра думаеш, разважаеш і выводзіш, значыць яна паможа табе адгадаць сябе, 5/ у галоўцы тытунь, а цыбук у роце і пыхкае, 6/ імя паэтэсы з Зэльвы, 7/ «калена» на галаве, 8/ не палата і не атплата, а прылада, якой можна капаць і адкідаць.

**Улева:** 1/ лі перад пнём у сярэдзіне лета, 2/ няволіць сабаку, 3/ купалаўскі таварыш хлопчыка, 4/ калі на яго глядзіш, сябе бачыш, 5/ не цяжкія ў грудной клетцы, 6/ не чалавек, а можа выступаць у тэатры, 7/ не эпас і не драма, 8/ у лася ўпішы туза і атрымаеш марскую рыбу.

**ядань**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на разетку з 20 н-ра. Управа:** барада, басота, бэлька, брукар, Берлін, брахун, барока, бароназа. **Улева:** брошка, бяроза, бяседа, балота, блузка, бурлак, блакіт, барсук. Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: Аляксандр Дабчынскі і Лукаш Пацэвіч з Беластока.






„Niwa", ul. Suraska 1, 15—950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210—33
Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Antoniuk Fabryczny 13.

Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.

**Рэдагуе калектыў:**
Мікола Ваўранюк, Віталь Луба (в.а. галоўнага рэдактара), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Галіна Раманюк і Марыя Федарук (машыністкі), Ада Чачуга (адказны сакратар).

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał upływa 20 sierpnia 1992 r.

2. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100 % i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje Zakład Kolportażu Prasy i Wydawnictw, Warszawa ul. Towarowa 28.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016